# Што было зьмешчана ў „Б. П.“ за 1928 г.

## I. Мастацкая літаратура.

**№ 1 „Б. П.“** 9-е студзеня—апав. **М. Горкага.** 2. Партбілет—верш **А. Бязыменскага.** 3. Легенды аб кастрычніку і Леніну. 4. На венскіх барыкадах— **Н. Беліна-Падгаецкага.** 5. Санкі-самакаткі—верш **Асота.**

**№ 2 „Б. П.“** 1. Якімка-партызан—апав. **П. Голубева.** 2. Я у клюб іду—верш **Ал. Розны.** 3. Зімовае—верш **Ю. Таўбіна.** 4. Помста кошкі—апав. **Я. Маўра.** 5. Певень у зьвярынцы—верш **А. Данчэнкі.** 6. „Я тут! Я жыў!“—апав. **М. Пралескінай.**

**№ 3 „Б. П.“** 1. Якімка-партызан—працяг. 2. Плывем—верш **Борданава.** 3. Вайна і мір—апав. **М. Белякоўскага.** 4. Савецкі часавы—верш **Д. Беднага.**

**№ 4 „Б. П.“** 1. Не пашанцавала—апав. **С. Баранава.** 2. Белагрывая зіма—верш **К. Шавеля.** 3. Акцябраты—верш. 4. Пра сваё роднае—верш **А. Розны.** 5. Першае знаёмства—апав. **А. Поляка.**

**№ 5 „Б. П.“** 1. Максім Горкі—мастацкі нарыс **І. Самковіча.** 2. Лапаронак Алеса—апав. **А. Кажэўнікава.** 3. Юзічак-курэц—верш **Бокуця.**

**№ 6 „Б. П.“** 1. Шакал Ціто—апав. **Э. Сэтон-Томпсона.** 2. Петрык-цыганёнак—верш **Таўбіна.** 3. Сны зайца—верш **Астапенкі.** 4. Янкава пакаяньне—**А. Цітавай.**

**№ 7 „Б. П.“** 1. Пастушок—верш **К. Шавеля.** 2. Шакал Ціто—працяг.

**№ 8 „Б. П“.** 1. Пра ўдалага Янку—верш **Таўбіна.** 2. Шакал Ціто—працяг. 3. Вёска „Наша будучыня“—апав. **А. Цітавай.**

**№ 9 „Б. П.“** 1. Мудрая парада—байка **А. Якімовіча.** 2. Новы мурзілчын даклад—інсцэніроўка **Г. Буравога.** 3. У чужых—апав. **Д. Малаева.**

**№ 10 „Б. П.“** 1. Вясна—верш **А. Чурылаўца.** 2. Турнэпс—апав. **Галадоўскага** 3. Мікола і сьвіньня—верш **С. Калугіна.** 4. Новы сьвет—апав. **Н. Беліна-Падгаецкага.** 5. Стары воўк—казка **В. Каваля.** 6. Элька-акцябронак—казка **З. Астапенкі.**

**№ 11 „Б. П.“** 1. Малы рызыкант—апав. **М. Гарэцкага.** 2. Сёньня поле задорна сьмяецца—верш **Ал. Розны.** 3. Няспоўненая мара—апав. **Б. Шарупіча.** 4. Стась—верш **К. Шавеля.** 5. На заводзе—**Я. Івашын.** 6. Прыгоды Капейкіна—апав. **Капейкіна.**

**№ 12 „Б. П.“** 1. Васеньняй ноччу—апав. **М. Матусэвіча.** 2. Пальчык—апав. **Крапівы.** 3. Піонэры—**А. Ц.**

**№ 13—14 „Б. П.“** 1. Кітайчык Лі-Ці — апав **С. Ляліцкай.** 2. Прыгоды Капейкіна. 3. **Янкава Курачка.**

**№ 15 „Б. П.“** 1. Злосьць—апав. **С. Баранава.** 2. Ленін і кітайскі кулі—верш **Я. Івашына.** 3. Хатняе жыцьцё рабочага чалавека (апавяданьне з ангельскае мовы). 4. Прыгоды Капейкіна.

**№ 16 „Б. П.“** 1. Бяспрытульныя—апав. **Л. Царанкова.** 2. Каўкаскі дэлегат—верш **А. Розны.** 3. Тыгра-людаед—апав. **П. Інфанцева.** 4. Янка-мудрагель—верш **З. Астапенкі.** 5. Курка-Рабка—байка **Ул. Жылкі.**

**№ 17 „Б. П.“** 1. Чабан—апав. **В. Патапенкі.** 2. Піонэры-інжынэры—верш **Асота.** 3. Сусьветная паветрыя—апав. **А. Барбюса.** 4. Яшка авіатар—верш **Панамарова.** 5. Янук у лесе—верш **Я. Івашына.** 6. Мікітава жаданьне—апав. **Цітавай.**

**№ 18 „Б. П“.** 1. Запіскі вучаніцы—**А. Грыгор'евай.** 2. Даёш здаровы быт новы—**інсцэніроўка.** 3. Дзівосны сон—верш **Шавеля.** 4. Малацьба—верш **Івашына** 5 Воўчыя ягады—апав. **Цітавай.**

**№ 19 „Б. П.“** 1. Школьнік—верш **Шавеля.** 2. Запіскі вучаніцы—працяг. 3 Міхалка—верш **Г. Асота.** 4. Прыгоды Капейкіна. 5. Верабейка-круціхвост—апав. **Ю. Сірага.**

**№ 20 „Б. П.“** 1. Гісторыя з сіняй настольніцай—апав. **М. Горкага.** 2. Суд над Капейкіным 3. Комунар—верш **К. Шавеля.**

**№ 21 „Б. П.“** 1. Свабода Агнёва—апав. **Н. Беліна-Падгаецкага.** 2. Змаганьне—казка **Астапенкі.** 3. На Алтаі—маст. нарыс **А. Кажэўнікава.**

**№ 22 „Б. П.“** 1. Паштальён—апав. **М. Белякоўскага.** 2. Змаганьне—працяг. 3. Ворагі—**Б. Род.**

**№ 23 „Б. П.“** 1. І натапырыліся лясы — маст. нарыс **Л. Розэмблюма.** 2. Прыгоды Капейкіна. 3. Сава, асёл ды сонца—байка **Крапівы.** 4. Матыль і кветка—верш **Сафроненкі.**

## II. Важнейшыя нарысы і артыкулы на розныя тэмы.

Гутарка доктара.—Вольны час праводзь весела і цікава.—Ад чаўна да сучаснага параходу (№ 1).

Калі перамагаецца вуліца.—Работа пролетарскіх дзяцей Францыі.—Падводныя і падземныя дарогі (№ 2).

У руках у нас вінтоўка.—Чырвонаармейцамі добрымі будзем.—Справа майстроў баіцца.—Тэхніка і вайна. Вайсковыя гульні (№ 3).

Як латаць панчохі.—Прываблівай птушак.—Як правесьці дзень птушак.—Як я зрабіў модэль самалёта.—Новы ветраны рухавік (№ 4).

Трэба мець чыстыя і моцныя зубы.—Апавяданьне загадчыка саўхозу.—Волга-Дон.—Дзеці аб Горкім.—Як хто піша апавяданьні (№ 5).

Добраму агароду—добры догляд.—Для натуралістых ёсьць работа.—Як хто піша апавяданьні (№ 6).

*(Працяг гл. на 3 стар. вокладкі)*



Рэдколегія: **БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.**

Адказны рэдактар **А. ПЯКАРЧЫК.**

Друкарня БДВ зак. № 977—1800. **Галоўлітбел № 475**

*Год выданьня 4-ты.* **Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**




**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, Орган ЦКЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 24** **СЬНЕЖАНЬ** **1928 г.**

# Як утварылася БССР.

Роўна 10 год таму назад 1-га студзеня 1919 г. быў абвешчаны акт аб ўтварэньні Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі. Нараджэньне Савецкай Беларусі адбывалася ў вельмі цяжкіх варунках. Пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі Беларусь апынулася окупаванай нямецкай арміяй. Такім чынам, працоўныя Беларусі былі пазбаўлены магчымасьці закончыць поўную перамогу над панамі і фабрыкантамі, гэта значыць правесьці ў жыцьцё ідэі Кастрычніка на Беларусі.

У той час у Беларусі організавалася дробнабуржуазная організацыя, так званая Найвышэйшая Беларуская Рада. Гэта Рада ў сваёй дзейнасьці імкнулася адлучыць Беларусь ад рэволюцыйнай бальшавіцкай Расіі, а значыцца і ад завяршэньня канчатковай перамогі Кастрычнікавай рэволюцыі ў Беларусі. Рада цікавілася толькі тым, каб Беларусь стала асобнай дзяржавай. А якой дзяржавай?—Дзяржавай дробна-буржуазнай, у якой застаецца той-жа пан і капіталісты на карку працоўнай масы.

Праводзячы ў жыцьцё ідэі Кастрычніка аб самавызначэньні народаў былой расійскай імпэрыі, РКП увосень 1918 г. паставіла на парадак дню пытаньне аб стварэньні Беларускай Социялістычнай Савецкай рэспублікі.

Гістарычны ход падзей паскорыў вырашэньне гэтага пытаньня. 7-га лістапада пачалася рэволюцыя ў Нямеччыне, і нямецкія войскі вышлі з Беларусі.

26-га сьнежня ў г. Смаленску адчынілася конфэрэнцыя РКП Заходняй вобласьці. Гэта партконфэрэнцыя ставіць пытаньне аб утварэньні Савецкай Беларусі. У выніку абгаварэньня пытаньня на конфэрэнцыі 1-га студзеня 1919 г. і быў абвешчаны акт аб утварэньні БССР. Адразу-ж пасьля абвяшчэньня Савецкай Беларусі пачалася вярлівая праца: пачалі організоўвацца беларускія ўрадавыя ўстановы, школы, выдавацца законы і інш.

Народжаная ў вагні барацьбы маладая Савецкая рэспубліка праз некаторы час зноў павінна была спыніць сваю працу. Як шалёны віхар, налятае на Беларусь насланая Антантай польская буржуазія пад кіраўніцтвам Пілсудзкага...

Але—гэта ў мінулым. Цяпер Беларусь пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі сьмела і горда крочыць наперад у новыя дзесяцігодзьдзі да социялізму!

А. Ч.

**Наш піонэрскі салют змагару за Савецкую Беларусь—Комуністычнай Партыі—і Ураду БССР у дзень дзесятак угодкаў абвяшчэньня Беларусі Савецкаю.**

# ДЗЕЦІ ВУГАЛЯКОПАЎ

*Апавяданьне* **Эд. Фалькоўскага.** *Малюнкі* **А. Тычыны.**

*У гэтым невялічкім апавяданьні досыць характэрна і тыпова паказана ўся жахлівасьць нечалавечнай эксплёатацыі дзяцей рабочых у буржуазных краінах. Уладары машын цалкам зацікаўлены толькі ў сваіх прыбытках, якія высмоктваюцца сілаю з крыві рабочых і іх дзяцей.*

I.

Маленькаму Джоньні ледзь споўнілася 12 гадоў, калі матка павяла яго да пастара.

— Бацюшка! — сказала яна, — хлопец досыць вялікі, ён можаісьці працаваць як дарослы.

— Бацюшка, які ўважліва поркаў зубы тупою зубачысткаю, прыцмокнуў і запытаў.

— Але ці-ж ён дарослы?

— Вось гэтае трэба пасьведчыць, бацюшка. Адзін толькі мужык працуе. Дык што-ж нам рабіць? Чацьвёра малых у хаце...

Пастар пакачаў сваёй вялізнай галавою і прамармытаў:

— Гэтак нядобра.

Але маці дамагалася і даводзіла і прасіла, і, нарэшце, паважны бацюшка сеў і напісаў мэтрыку, якая зрабіла з Джоньні дарослага...

Маці, выціраючы бруднай насоўкай сьлязіну з вачэй, дала пастару скамечаную далярную паперку, якую ён сунуў з прывыклым спакоем у кішэню. „Дзякую вам, дзякую!“—шаптала маці, выходзячы.

Джоньні з крыху зьбянтэжаным выглядам сачыў за тым, як скамечаная зялёная паперка схавалася ў шырокай кішэні, і наглядаў за рухамі ўсьмешкі, якая перабягала на пастаравым абліччы.

Калі яны выйшлі з халадку царкоўнае канторы, маці некалькі разоў пацалавала Джоньні і пайшла дахаты.

— Цяпер, Джоньні,—казала маці,—ты можаш ісьці шукаць працы. Ты ўжо дарослы.

Такім чынам, хлопчык, як у казцы, стаў адразу дарослым, бо яму трэ‘ было працаваць.

Страх ахапіў яго маладое сэрца і моцна сьціснуў яго, калі ён пазіраў на траскучую драбільню. Вялізная, суровая, хмурная, яна ўсё трушчыла і трушчыла вугальлё пад аднатонную музыку яго скрыгітаньня.

Вальцы, сіты, колы і пасы зьліваліся ў вялікай сымфоніі трушчаньня вугалю. Яны складалі пахмурную і пыльную постаць, поўную зубоў, якія расьціралі дарагі антрацыт (парода вугалю). Раз за разам ён высыпаўся ў яе рот, а адтуль у вальцы, выходзячы з сітаў у жалабы і міскі, дзе згорбленыя хлапчукі выбіралі ў смуроднай вадзе, якая працякала праз вугаль, маленькія кавалачкі шыфэру. Яны кідалі іх ў каменныя рухавыя скрынкі. Джоньні стаў аднэю з гэтых згорбленых істот.

II.

„Ня так яно ўжо і дрэнна“—думаў Джоньні, седзячы на жолабе і прыглядаючыся, як выходзіць камень замест вугалю. Яму трэба было сачыць за „скасьцянелымі“ кавалкамі напоўкаменю, напоўвугалю, якія ён выкідаў у асобную скрынку, што ішла да іншых вальцаў, „касьцякі“ тамака трушчыліся на вугольчыкі велічынёю з зерня ячменю ці грэчкі.

Ён выбіраў „пячны вугаль“. У гэтай працы ня было нічога цяжкага. Вада гнала вугаль уніз па жолабу. Вочы сачаць за шэрым кавалкам каменьня, яго падхопліваюць пальцы і адразу кідаюць

у каменную скрынку. Джоньні прызвычайваецца рабіць гэта мэханічна, так што яго розум можа вандраваць па ўсім шырокім сьвеце, — ці ўва ўсякім разе, па той яго частцы, якую ведае Джоньні, — у той час як рукі ад прывычкі самі ловяць кожны кавалачак шыфэру, ня думаючы нават аб ім.

Некалькі дзён прайшло для вучэньня. Вугаль ішоў цэлы дзень бязупыннаю плыняй. На пальцах, якія церліся цэлы дзень аб залезны ліст, зьявіліся „чырвоныя макаўкі“.

Іхнія канцы балелі ад болю і ён ня мог схапіць аніводнага кавалачка шыфэру. Ад чырвоных макавак быў толькі адзін ратунак: ісьці за сіты і мачыць рукі. Джоньні гэтак і рабіў і праз некалькі дзён боль зьнікла. Але, сапраўды, яна зьнікала толькі ад таго, што Джоньні навучыўся зьбіраць са стала каменьчыкі, не закранаючы пальцамі залезнага стала.

Пасьля ліхія дні пачалі зацямняць Джоньняву моладасьць. Сапсаваныя сіты выкідалі больш каменьняў, як маглі схапіць выкідальнікі. Хаця іх пальцы варушыліся з шалёнаю хуткасьцю, дзесятнік жолабу мог заўсёды захапіць жменю вугалю, пакуль яна пракаўзьнецца далей, і выцягнуць з яе тры-чатыры кавалачкі каменю.

Ён паднімаў гэтыя шэрыя асколкі з выглядам злоснай радасьці і яго цяжкая рука апускалася на таго з дзяцей, хто больш гнуўся і хутчэй працаваў. Вельмі часта дзесятнік рычэў са злосьці і наглядаў за рухамі кожнага хлопчыка, каб злавіць слабейшага выбіральніка, тады лупцаваў няшчаснае дзіцянё.

Жудасьць сьціскала грудзі кожнага дзіцяці пры думцы аб тумаках бацькі, якіх не мінаваць ім, калі іх прагоняць з працы. Гэтая цяжкая жахлівая думка спавівала кожнага з гэтых замурзаных стварэньняў, калі яны гнуліся пад залезнымі лістамі і цягалі ўсё новыя і новыя асколкі каменьня ў сваім бясконцым змаганьні з вугалем, які напаўняў жолаб хутчэй, чым яны маглі гэты вугаль ачысьціць.

Дзеці заўсёды завіхаліся працаваць хутка, вычысьціць вугаль і спарожніць жолаб. Гэта давала ім некалькі сэкундаў адпачынку, у часе якога яны маглі выпрастаць свае сагнутыя сьпіны. Але змаганьне не давала ніякай карысьці: вугаль цёк усё болей і болей, імкнучыся з жорсткай найстолівасьцю завал ць жолаб. Хлопцы ізноў змагаліся, каб ачысьціць жолаб, але ён усё больш заставаўся поўным. Некаторы час яны яшчэ настойліва трымаліся, а пасьля сьціпіыліся. У думках кожнага жыло жаданьне, каб здарылася што-небудзь у сярэдзіне драбільні. Хай-бы пабіліся вальцы ці зваліўся рычаг, ці зламалася вось. Тады затрубіць нядоўгі гудок і кожнае сэрца падскочыць ад радасьці, што цяжкі машынэрыя драбільні зламалася і стала. Хлопцы тады кінуцца і хутка выбяруць усё, што ў іх засталося, вычысьцяць жолаб, зловяць некалькі вольных хвілін для адпачынку.

III

Шэрыя дні, мокрыя дні, ясныя дні мінаюць. Хлопцы заўжды чакаюць, калі выйдзе са станцыі цягнік, які адыходзіць у дзьве гадзіны. Калі яны бачылі, як магутная машына цягнулася праз мост, з доўгаю стужкаю чырвоных вагонаў, з вокнаў якіх выглядалі шчасьлівыя пасажыры, яны ведалі тады, якая была гадзіна.

Можна было бачыць па ценях пасаў і колаў, якія ўвесь дзень паўзьлі ўгару і амаль што ўзлазілі на столь, калі наступала пара разыходзіцца. Але ў мокрыя дні даведацца аб тым, які цяпер час, можна было толькі ўбачыўшы, як адыходзіў цягнік.



*...тады лупцаваў няшчаснае дзіцянё.*

Былі дні, калі прыходзіла „начальства“. Кожны баяўся начальства, якое было непасрэдным пасланцом вышэйшых устаноў і заўсёды, калі прыходзіла, сачыла за капальнямі.

Потныя рабочыя заўсёды ў тыя дні пацелі больш і дзесятнікі выкідалі кавалкі каменьчыкаў, якія валяліся на падлозе. Дзесятнік драбільні крыху спалохана бегаў туды і сюды, прыходзіў нават і сам загадчык капальні з усхваляваным выглядам і на дзіва працавіты.

Нарэшце прыяжджалі важныя госьці, звычайна трое або чацьвёра худых, зморшчаных людзей. Яны няветліва глядзелі на выбіральнікаў шыфэру, якія хапалі яго цяпер хутчэй, чым звычайна, і кожны момант, крадучыся, кідалі пракідкія погляды на тых дзівосных людзей, са страху перад якімі нават самыя дзесятнікі наўкола зьбіваліся з ног.

Гэтыя вялікія людзі крычалі проста кожнаму ў самае вуха, бо моцны гул драбільні не даваў магчымасьці гаварыць звычайна. Іншыя надзіманаківалі галавою. Бліскучыя маршчынкі ад пільнага ўгляданьня зьяўляліся на іхніх худых і жоўтых тварах, калі яны, ківаючы сваімі галовамі уздымаліся па сходнях, каб паглядзець сіты і падвешнікі машын.

Здавалася, што самыя машыны выяўлялі нязвычайную энэргію, баючыся гэтых страшных халодных людзей. Падважнікі скакалі і прыгожа варушыліся, вальцы мэлёдычна малолі, сіты падскаквалі ўгару і ўніз, выкідваючы вялізныя кучы вугальля. Кожны выбіральнік шыфэру хацеў перабраць як мага больш вугалю, каб паказаць, што яны робяць важную справу. Бо пра іх хадзіла такая слава, што яны былі вялікімі гультаямі.

Выбіраньне шыфэру прымушае жыць лятуценьнямі і хлапцоў і старых людзей. Перад хлапцамі распрасьціраецца жыцьцё, падыходзяць залатыя гады, багатыя цікавымі здарэньнямі. Ад старых жыцьцё ўцякае, яго адабралі ад іх капальні і ўдушша дабіраецца цяпер да іхніх лёгкіх, іхнія горлы асіплі і ўжо ніколі не запяюць песьні.

Жудасны гул драбільні гучыць, як кволы акомпонімэнт, да цяністай гульні надзей у маладых грудзёх.

Юнак у лятуценьнях бачыць сябе грозным прамоўцай, вольныя словы якога выклікаюць буру воплескаў у яго слухачоў.

Кожная згорбленая істота, чыя сьпіна набывае форму вярблюдавае, мае якія-небудзь лятуценьні ў сваёй галаве. Кожны дзень юнак забаўляецца імі—чароўнымі лятуценьнямі. Вочы праз кволую імглу пылу, якая скоўвае яе дыханьне і поўніць лёгкія, імкнуцца ў лепшую краіну. Бо ёсьць-жа дзесьці іншае жыцьцё, бяз пылу і трэску вальцаў і ваганьня падважнікаў.

Дзень за днём плывуць лятуценьні. Драбільня родзіць нейкія п‘яныя мары. А сама яна, як вялізнае жахлівае пудзіла, усё трапечацца і б‘ецца ў сваёй непакорлівасьці. Падлогі, слупы, сходкі бязупынна трашчаць і калоцяцца. Здаецца, што ўся будова вот-вот абамлее і стане, але машыны ўсё рыпяць ды рыпяць і жудасна выюць.

Ап‘янеўшы ад гулу і душачыся пылам, гэтыя згорбленыя, прыгнечаныя постаці сядзяць у маўчаньні. Гул ім замяняе музыку. Ён мае свае грубыя тоны, а часамі шапоча мякка і сумна. Яны чуюць, як мяняюцца рухі падважнікаў, вальцаў, скрэблаў. Драбільня становіцца жывою істотаю, якая таксама аб нечым марыць, як марыць і яе чалавечыя насельнікі.

## IV.

Старыя людзі выбіраюць „лом“. Ломам завуцца вялікія кавалкі колатага вугалю, паднімаць якія дзецям вельмі цяжка. Вугаль і каменьні ідуць да старых па конвэйерах, замест жолабаў. І ў гэтых старых людзей таксама ёсьць свае лятуценьні.

Гады, якія яны правялі ў капальнях, здаюцца ім цяпер далёкім мігаценьнем голай лямпачкі ў змрочных праходах капальняў. Яны, здаецца, вылезьлі з чорнай цемры доўгіх і нізкіх капальняў толькі дзеля таго, каб засесьці за гэты безканцовы канвэйер і біцца над гэтымі вялізнымі глыбамі каменьня, якое прыходзіць да іх з дна капальняў.

У іх былі свае лятуценьні, а цяпер застаецца ад іх толькі жаль мінулых цьмяных надзей, зацянёны дымам пражытых гадоў, і чаканьне бязьлітаснай магілы.

Пабітыя і пакалечаныя абваламі каменных глыбаў, бяз пальцаў, некаторыя бяз-



ногія і большасьць з кіямі,— вось якімі робяцца гэтыя калекі капальняў на сходзе сваіх дзён. Ім давялося перажыць пад зямлёю і выбухі газаў і абвалы тунэляў і ўзрывы катлоў. Ніхто з іх ня мае здароўя і сілы пасьля сваёй працы і жыцьця ў капальнях.

Гэтыя людзі, падобна да навакольных скалаў, уяўляюць сабой пабітыя, зруйнаваныя і закінутыя ў пяшчэры зломкі таго, чым яны былі раней, паступова гібеючы. Калі машынэрыя застогне на адпачынак для полудню, старыя пасядуць вакол і пачнуць сёрбаць са сваіх жбанкоў. Яны не гавораць нічога. Аб чым і для чаго гаварыць, прагараваўшы ўсё жыцьцё ў капальнях і апынуўшыся пасьля на канвэйры, каб бязупынна выкідаць глыбы серкі ды шэрых каменьняў.

Але калі драбільня заварушыцца, яны з дзікай энэргіяй бяруцца за працу, мармычачы напевы забытых песьняў і іхнія вочы блукаюць па-за жалезнымі сьценамі дрыжачай драбільні, ловячы зіркам рэчы, якія яны маглі-б мець, калі-б жыцьцё было іншае і праца мела сваю пачэсную ўзнагароду

Але... аб гэтым можна толькі марыць, і нарэшце гудок кажа, што пара канчаць працу і разыходзіцца.

І калі Джоньні бачыць гэтых старых гарбатых і замучаных людзей, у яго галаву крадзецца палахлівая думка, ці не самога сябе ён бачыць гэта праз доўгі тунэль наступных гадоў. Ён ціха шэпча: „Ня можа быць! Ня можа быць! Хай лепш мяне задавіць глыба!“

Але драбільня ўсё гудзе і гудзе, выстукваючы свой уласны рытм тых жывых істот, што засаджаны за яе жолабы і канвэйеры. Яна шалее пасвойму і мае свае ўласныя песьні.

Яна ні на што і ні на кога не зважае, адчуваючы, што моцна валадае лёсам сваіх жывых ахвяр.

Пераклаў з ангельскае
**А. Мардвілка.**

*Праца ў капальнях.*




*Беларусь у 1918 г.—краіна пажараў...* Малюнак А. Тычыны.

# Каля партызанавай хаты

**(П'еса ў 2-х актах з жыцьця дзяцей Заходняй Беларусі).**

**Асобы:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | БАНАДЫСЬ ПАБЯГУНЧЫК | 27 год. |
| 2. | ЗЬМІТРОК—яго брат | 13 „ |
| 3. | ХВЕДАР—сябра Зьмітрака, | 15 „ |
| 4. | АЛЯКСЕЙ „ „ | 14 „ |
| 5. | ІГНАТ „ „ | 13 „ |
| 6. | 1-ы паляк | 25 „ |
| 7. | 2-гі паляк | 30 „ |
| 8. | ПАЎЛЮК, селянін, | 30 „ |
| 9. | ПРУЗЫНА, яго жонка | 28 „ |
| 10. | Сяляне, партызаны. | |

**Дэкарацыя**. Вясковая вуліца. Плот, каля яго растуць дрэўцы. Хата партызана Банадыся Пабягунчыка; хата стаіць вакном на сцэну. Пры сьцяне зроблена прызба. Праз вуліцу нацягнуты тэлефонны дрот.

## 1-ы акт.

На вуліцы нікога няма. Праз хвіліну-дзьве прыходзіць Ігнат і Аляксей.

ЗЬЯВА I-ая.

Ігнат і Аляксей.

Ігнат. Нешта сягоньня на вуліцы хлопцаў ня відаць.

Аляксей. І дзе яны падзеліся? Мо' дзе гуляюць, а мо' ў лес да партызанаў пашлі?

Ігнат. Давай пойдзем да Банадыся. Калі Зьмітрок дома, то без яго наўрат ці пойдуць яны да партызанаў.

Аляксей. Чаго нам ісьці ў хату,—я ў вакно пастукаю. (Стукае). Зьмітрок дома?

Зьмітрок. Заходзь, заходзь!

Аляксей. Ты на вуліцу выйдзі. Тут ляпей, чым у хаце.

Ігнат. Вылазь, а то цябе там мухі заядуць у хаце.

ЗЬЯВА II-ая.

Тыя-ж і Зьмітрок.

Зьмітрок. І праўда. Ужо як прыдзе лета, дык так уядуцца гэтыя мухі, хоць ты аблавы на іх рабі.

Аляксей. Мы думалі, што ты зноў з хлопцамі да партызанаў пайшоў і нас не паклікаў. Ай, далі-б тады перцу!

Зьмітрок. Вось дзівакі! Нам трэба шутку якую ўрэзаць, тады йсьці. А так—ну чаго ісьці? Чым мы іх парадуем?

Ігнат. Праўда. Проста неяк нялоўка цягацца без патрэбы. Навін у вёсцы няма, небясьпекі ня чутно. А мы будзем швэндацца, пакуль палякі ўбачаць і іх паловяць.

Аляксей. Ну, брат,—сьвісьні. Пакуль іх паловяць, дык шчэ' не аднаго пана прыкакошаць.

Зьмітрок. Хто іх зловіць,—палякі? У такім вялічэзным лесе хлопцы сядзяць, як у бога за пазухай. Тут французы, казаў дзед, заблудзілі і брычку золата закапалі. І палякам ня выбрацца, хай толькі паспрабуюць зайсьці... Але ці ведаеце, хлопцы, што я надумаўся.

Усе. Што, кажы?

Зьмітрок. Я думаю такую штуку ўрэзаць.

Усе. Ну?!

Зьмітрок Давай абарвем тэлефон...

Ігнат. Хлопцы, за гэта могуць здорава нагрэць.

Зьмітрок. Што там нагрэць.

Аляксей. Адкуль яны даведаюцца, хто абарваў.

Зьмітрок. Добра кажаш. Скажам—вецер. Даёш... Лезь Ігнат на плот...

Ігнат. Братцы, боязна.

Аляксей. Боязна, боязна... Вось ня люблю я трусоў. А ну памагайце! (Аляксей з Зьмітраком цягнуць, а Ігнат глядзіць на вуліцу). Ігнат, памагай. З намі не прападзеш (Цягнуць).

Зьмітрок. О, холера, моцная.

Аляксей. Усе разам. Раз... два...

Ігнат. Нехта йдзе. (Уцякаюць).

## ЗЬЯВА III-яя

Хведар.

Хведар. Чаго, як утрапёныя, паперліся!? Не пазналі мяне ці якое ліха. Хлопцы, а хлопцы! Сюды йдзеце. (Махае шапкаю). Бакі парвеш. Так спалохацца. (Рагоча). Нешта-ж такое вычварылі. (Глядзіць). А, ведаю, дрот адцягнулі, мабыць, гушкаліся.

## ЗЬЯВА IV-ая.

Хведар, Зьмітрок, Ігнат, Аляксей,

Ігнат. А мне здалося—паляк ідзе.

Аляксей. Дурной авечцы—заўсёды здаецца.

Хведар. Бакі парваць, як вы махнулі драла, я ўстаяць на мейсцы ня мог.

Зьмітрок. Сьмех—сьмехам, а каб быў сапраўды паляк, то і ўцяклі-б.

Ігнат. Канешня (паказвае на Аляксея). А ён 'шчэ вочы вылупіўшы цягне, і 'шчэ цяпер рагоча.

Хведар. Вы тут гушкаліся, што дрот адцягнулі?

Зьмітрок. Вось паглядзі, што мы тут рабілі. (Бяруцца за дрот).

Аляксей. Ну, бярыся і ты.

Хведар. Дык я не разумею, нашто гэта.

Зьмітрок. Абарвем, абарвем, а палякі няхай тады гавораць.

Аляксей. Ну, дружна. Раз... Два... Тры... (Валяцца). Як відаць, мы будзем цягнуць вярсту і не разарвем.

Хведар. Зьмітро, табе блізка. Ідзі вазьмі сякеру, перасячэм.

Зьмітрок. Ты нас на шлях направіш. (Ідзе па сякеру). Адну хвіліну—сякера пад паветкаю...

Хведар. І вы зразу не маглі здагадацца, што тут сякера і трэба. У ім-жа ў сярэдзіне ёсьць дроцікі, іх толькі перасекчы або вострым нажом перарэзаць, або камень на камень ды перабіць. А так чорт яго перарве.

Аляксей. Цяпер дадзім раду.

Зьмітрок. Дадзім, дадзім! Дзяржэце! Так к калену прыцісьні. (Сячэ). Раз... гатова!

Ігнат. Пакажы, што ў сярэдзіне робіцца.

Хведар. Я-ж казаў.

Зьмітрок. Бач, зьвіты тоненькі дрот, як струны, надзета рызіна і пляцёнка.

Аляксей. Няхай цяпер паны паскавычуць.

Ігнат (прыкладае да вуха). Я пачуў слова: пане, пане.

Хведар. Што брэшаш?

Ігнат. А можа мне здалося.

Аляксей. Табе і яшчэ некаму здаецца. Ведаеш каму? (Ігнат сярдуе).

Зьмітрок. Я вас паміру. Я дам пану тэлеграму. Дай сюды (бярэ ў зубы дрот ад Ігната). Пане, пане, што ў цябе ў жбане. Ня чуеш? Прачысьці вуха, хай табе трэсьне бруха. (Рагочуць).

Аляксей. Нам па куску адсеч гэтага.

Усе. На што?..

Аляксей. Спатрэбіцца. З яго можна сплесьці добры бізунчык.

Усе. Даёш! Даёш!.. (Зьмітрок адсякае кожнаму па куску).

Зьмітрок. А гэта табе, Ігнат,—хваціць?

Ігнат. Мне зусім ня трэба.

Аляксей. Баішся! Усяроўна ўжо калі пападзе, дык усім пароўну.

Хведар. Няма чаго адзін аднаго пужаць.

Зьмітрок. І набівацца ня трэба, ня хоча браць, хай не бярэ.

## ЗЬЯВА V-ая.

Уваходзіць Банадысь. Яго не заўважаюць.

Банадысь. Чым вы таргуецеся? (Ігнат сабраўся ўцякаць. „Уцякайце!"—крыкнуў. Зьмітрок і Хведар сунялі яго за рукі).

Хведар. Ты ўжо такі асьцярожны, што ня толькі палякі, а й чэрці ня зловяць.

Банадысь. Трэба, трэба быць асьцярожным і адважным. Я вось падышоў да вас, а вы й ня бачылі, пакуль не загаварыў. Значыцца, каб што якое, дык вы і ў маіх руках. Так не гадзіцца, не гадзіцца... А якія ў вас справункі завяліся?

Аляксей. А мы вось дрот тэлефонны абарвалі, каб паном пашкодзіць гаварыць.

Банадысь. За гэта малайцы, хлопцы!.. Я вас за гэта люблю. Усім, усім, чым толькі можна, трэба перашкаджаць панскім недавяркам: пытае ў вас пан дарогі—абманеце яго, накіруйце ў лес, хай




*Беларусь у 1928 г.—краіна, дзе напорна і нясупынна будуецца соцыялізм.*

Малюнак А. Тычыны.

блудзіць; зазяваецца дзе, стырце стрэльбу ды к нам у лес; пытаецца паказаць хату партызана—накіруйце яго ў другую. Вы ведаеце, паны, каб маглі, яны-б нас палавілі ды ў лыжцы вады патапілі-б. Але гэта ніколі ня ўдасца. Беларускі лес шуміць, дрыгва стогне на балоце, і гэты шум, і гэты стогн разносіцца па ўсім сьвеце. Мы не адны, нам дапамогуць браты на ўсходзе: дапамогуць адламаць глюгу, адарваць кепці, падрэзаць крыльля беламу каршуну. Будзем спадзявацца і, ад стара да мала, будзем перашкаджаць панскаму панаваньню... (Да Зьмітрака). Зайдзем у хату!

### ЗЬЯВА VI.

Тыя-ж без Банадыся і Зьмітрака.

Аляксей. Вось чалавек! каб такія ўсе былі, дык ад палякаў-бы даўно патрахоў не засталося.

Хведар. Ён жывым у рукі ня дасца. Я ніколі не забуду, як пяць палякаў яго лавілі: паказаліся вось тут яны на вуліцы—я быў тады ў іх хаце,—дык Банадысь у сенцы, паляк у хату, а ён на вышкі, шараць яны ўсюды, пад сталом, пад полам, на печы, пад печкам, у каморы.—Цо за холера, кажуць, сядзеў у ванне і нема, лезуць на вышкі, а Банадысь, бывайце здаровы, прарваў страху, саскочыў, заехаў аплявуху паляку, што ля дзьвярэй стаяў, той з ног зваліўся, вырваў стрэльбу і—пяткі як маслам падмазаў. Палякі за ім у пагоню: але дзе там,—Банадысь ужо ў лесе. І паехалі палякі, як сабакі солі пахлябаўшы.

Аляксей. Сумей ты, Ігнат, такім лоўкім быць. Што на гэта скажаш?

Ігнат. Слухай, як-бы ні было, і што-б ні было, нідзе табе не падгаджу, за гэта галаву даю адсекчы.

Аляксей. У-ю-юй! У-ю-юй! Якім ты рызыкантам стаў. Адкуль гэта ў цябе храбрасьці знайшлося!..

Ігнат. А гэта мне ўжо знаць і нечага кепікі строіць.

Хведар. Як той кот з сабакам, і каб было за што, за глупства заўсёды сашчэпяцца... Ну, куды мы цяпер пойдзем? Паклічам Зьмітрака. Добра?

Усе. Добра!

### ЗЬЯВА VII.

(Неспадзявана на хлапцоў натыкаюцца два палякі).

1-ы паляк. Хлопакі!

Усе (спалохана). Што, панове, загадаеце?

2-гі паляк. Цо вы так спалоханы?

Хведар. Не, паночку... Чаго-ж там баяцца. Мы бачым, хто перад намі. Вы-ж ня злодзеі... Мы рыхтаваліся на рыбу йсьці.

1-ы паляк. Проша поведзіць, дзе хата Банадыся?

Аляксей. Якога?

2-гі паляк. Пачакай, не перашкаджай, калі гавораць.

1-ы паляк. Банадыся Пабягунчыка.

Хведар. А гэта, панок, трэба далей ісьці. Вунь, там на лагчынцы яго хата стаіць. Толькі ці застанеце дома?

Аляксей. Я бачыў, ён ішоў па загуменьню дадому.

1-ы паляк. Даўно ты бачыў?

Аляксей. Ды не—з поўгадзіны можа...

2-гі паляк. Але цо за трасца. Нам кабета паказвала, як толькі мы ўвайшлі ў вёску, цо ён дзесьці ў гэтым мейсцы жыве. Старэнькая хатка з вакном на вуліцу і прызбаю пры сьцяне. І мы накіраваліся вось к гэтай хаце.

1-ы паляк. А што нам перашкаджае увайсьці і добра ўпэўніцца. (Ідзе к хаце).

Хведар. Не, паночкі, вы памыліліся. Праўда, хата Банадыся Пабягунчыка паходзіць на гэту: стаіць пры вуліцы, ёсьць прызбачка, але пакуль вы будзеце па ўсіх хатах хадзіць, дык ён гатоў пайсьці куды, ён чалавек такі, ня будзе ён цэлы дзень у хаце сядзець.

2-гі паляк. Правядна, правядна.

Хведар. Паслухайце! Я вам раскажу, дык вы зразу да яго патрапіце і пытаць больш ні ў кога не патрэбна. Зьвярнеце ўвагу, пры хаце рабіна расьце...

2-гі паляк. Добжа, добжа! Але лепш будзе, кеды правядзеце нас пад самую хату. Пойдзем!

Ігнат. А мне, паночкі, няма часу: трэба коні весьці.

Аляксей. Паночкі! Вы й бяз нас трапіце! Я так добра расказаў.

2-гі паляк. Вам сказалі і ўшыстко! Пашлі! (Ідуць каля хаты Банадыся, Ігнат схаваўся за вугал, крадзецца к вакну, хоча папярэдзіць Банадыся, але адумаўся „Пагляджу ці адыйшлі", хоча паглядзець за вугал і натыкаецца на паляка).

2-гі паляк. А ты цо тут схаваўся. Ідзь за мной! А пся крэў! (Падганяе бізуном)

Ігнат. Мне, паночку, коні трэба весьці, тата будзе сварыцца.

2-гі паляк. Не размаўляць! Марш! (Грозіць бізуном).

*Заслона.*

## Акт 2-гі.

**Дэкарацыя** тая-ж, што і ў першым акце.

### ЗЬЯВА І-ая.

Зьмітрок (выходзіць з хаты). А дзе хлопцы? Пашлі, а ня гукнулі. Ну куды гэта гадзіцца. Цяпер шукай іх. І гэта называецца сяброўства. Цяжка было другому падыйсьці пад вакно або нават з вуліцы крыкнуць.

### ЗЬЯВА ІІ-ая.

Убягае засопшыся Ігнат.

Ігнат. Зьмітрок?

Зьмітрок. Чаму вы такія сьвіньні: пайшлі і мяне не паклікалі!?

Ігнат. Паслухай!..

Зьмітрок. І слухаць не хачу.

Ігнат. Ты звар'яцееў...

Зьмітрок. Ну, скажы, разумны, што гэта за сяброўства?

Ігнат. Палякі нас...

Зьмітрок. Ды кінь плявузгаць, табе гэтыя палякі ў ваччу стаяць.

Ігнат. Ды паслухай-жа! Хлопцы папаліся!

Зьмітрок. Што ты?!

Ігнат. Дзе Банадысь?

Зьмітрок. У хаце.

Ігнат. Уцякае хай!

Зьмітрок (ідучы ў хату). Банадысь! Банадысь! Прынесла-ж іх нялёгкая, нават і не заўважыў.



*На уроку фізкультуры ў дзіцячым доме.*

ЗЬЯВА III-ая.

Уваходзіць Банадысь.

Банадысь. Колькі, дзе?!

Ігнат. Двое. Напэўна хутка будуць тут. Хлопцы за нос іх водзяць нібы-та ты далей жывеш. Пападзе, калі не паўцякаюць.

Банадысь. Глупства. Раз я ня ў іх руках— няма чаго баяцца. Ты добра бачыў, што ўсяго два?

Ігнат. Пытаеш? Я-ж уцёк ад іх.

Банадысь. Так! Так! (Да Зьмітрака). Значыцца, заставайся дома,– прыдуць,— скажы, хай пачакаюць... Хадзем, Ігнат, будзем рыхтавацца, як вызваліць хлопцаў. (Ідуць).

ЗЬЯВА IV-ая.

Застаецца адзін Зьмітрок.

Зьмітрок. Шкода хлопцаў. Неяк-жа вот наткнуліся. Каб здаўмеліся ўцячы... Ах, як-бы гэта добра было! Ну як-бы ім дапамагчы? Ц-ц... плача нехта ці што? (Глядзіць на вуліцу). Ідуць... Можа схавацца? Але чаго мне хавацца, пайду ў хату, што мне зробяць.

ЗЬЯВА V-ая.

Два палякі, Прузына, Паўлюк.

Прузына (праз сенцы). Паночкі, куды вы яго павядзеце.

1-ы паляк. Вярніся, кабета.

2-гі паляк. Вярніся, бо дрэнна будзе.

Прузына. Што-ж я адна рабіць буду, дзе мне цяпер дзецца?

1-ы паляк. Хочаш, так і цябе разам з ім пасадзім.

Прузына. Садзеце, вядзеце, беце, рэжце ўсё роўна не адстану.

2-гі паляк. Супакойся, баба!

Прузына. Не супакоюся, усю дарогу крычаць буду. Не адстану, хоць сабе што хочаце. Ён-жа нікому нічога дрэннага не зрабіў, такі добранькі, такі спакойненькі, лішняга слоўца людзям ня скажа. Спытайце ў каго хочаце, у царкву ходзіць, богу моліцца, няма тае нядзелечкі...

2-гі паляк. Баба, каму ты кулі заліваеш?

Прузына. Паночкі, я стрэльбы ні разу ў руках ня трымала, ён таксама, нашто нам вашы кулі. Аддайце майго чалавека, не разьбівайце нашага жыцьця.

1-ы паляк. Колькі табе гаварыць? Раз сказана і крышка. Пашоў! (Ідуць).

Прузына. Душагубцы! Душагубцы!

1-ы паляк. Цо? Цо мувіш?! (Б'е бізуном).

Прузына. А мой-жа ты Паў-лю-чо-о-о-к!!

2-гі паляк. Дура, ты так хутка забыла як зваць. То не Паўлюк, а Банадысь Пабягунчык.

Паўлюк. Не, паночкі. Я Паўлюк, Паўлюк Бутрым. Вы памыліліся. (Гаворыць ціханькім дрыжачым голасам).

Прузына. Дай божа розум...

2-гі паляк. Цо за ліха?!

Паўлюк. Вось пасьведчаньне атрымаў у гміне, хто я такі. (Паказвае).

2-гі паляк (пытае). Паўлюк Бутрым...

1-ы паляк. Дык гэта нас малыя пaдманулі

Прузына. А хто вам трэба?

2-гі паляк. Банадысь Пабягунчык.

Прузына. Во яго хата. (Паказвае).

1-ы паляк (паказвае пальцам). Гэта?!

2-гі паляк (паказвае пальцам). Гэта? (Бягуць у хату).

Прузына. Хадзем, пакуль жывы засталіся.

Паўлюк. Разьвяжы, Прузынка, рукі, а то баляць.

Прузына. Хадзем, кажу, дома разьвяжу. Сюды... па загуменьню лепей пойдзем.

ЗЬЯВА VI-ая.

Хведар. Але зразу схвацілі яго.

Аляксей. А што ім доўга гаварыць — рады, што цапнулі.

Хведар. Падумай, Аляксей, у якім становішчы яны апынуліся?

Аляксей. У дурняцкім. Завядуць Паўлюка ў гміну, там па дакумэнтах разьбяруцца ды выпусьцяць.

Хведар. Ото будзе сьмеху, калі ўсе зьбярэмся.

Аляксей. Нечакана так лоўка вышла. Праўда? Ігнат уцёк, а нам і ўцякаць ня трэба. Ідзем сабе па-панску. Да Банадыся можа заглянем?

Хведар. Наўрат ці дома будзе. Ідучы я з Ігнатам перашапнуўся: каму ўдасца ўцячы, зразу трэба Банадыся папярэдзіць.

Аляксей. Ты верыш Ігнату. А можа ён рад, што сваю скуру выратаваў, сядзіць дзе-небудзь у зацішку?

Хведар. Кінь ты глупства... (Ідучы дахаты, натыкаецца на палякаў).

ЗЬЯВА VII-ая.

Дабаўляецца два палякі і Зьмітрок.

1-ы паляк. Стойце! (Выставіў стрэльбу).

2-гі паляк. О пся крэў! Зараз з вамі пагутарым. Дык вы нас абманулі... а? Вядома чым, за гэта пахне!

Хведар. Тым пахне, што каб ня мы — Банадыся ўзялі-б, а так ён на волі.

2-гі паляк. Двадзесьці пеньць.

1-ы паляк (падганяе бізуном Хведара). Ходзь тутэй. (Выходзіць з Хведарам за сцэну).

2-гі паляк. А цо ты мувіў, кеды пыталі хату Пабягунчыка?

Аляксей. А я ўжо забыўся.

1-ы паляк. Прыпомніш, кеды ўсыплем.

2-гі паляк. А на цо ты ўцёк?

Зьмітрок. Пане перапуталі, гэта ня я; той, што ўцёк, даўно ў лесе з Банадысём. (1-ы паляк прыводзіць Хведара).

2-гі паляк. Тэрас адкажаш на цо абманвалі.

Хведар. А хіба так ужо забыўся, — я-ж казаў.

1-ы паляк. Яму бізун нічога, трэба так што прыдумаць. Трэба ўсіх у рэчку ды патапіць, як шчанят.

2-гі паляк. На цо воду брудзіць, мы іх на дрэва павесім. (Глядзіць). А што гэта з тэлефонам?

1-ы паляк. Панове! то-ж абарваны тэлефон!.. (Ходзіць гледзячы).

Зьмітрок. Гэта вецер абарваў. А мы тут не вінаваты.

2-гі паляк. У цябе ў галаве вецер!..

1-ы паляк. Вецер такі кусок адарве... о, холера на вас! о, д'яблы! (Да Зьмітрака). На цо рукі ў кішэні? Цо там у цебе? Покаж! (Глядзіць. Стрэльбу ставіць каля плоту. У гэты час Ігнат ціхутка падкрадаецца, бярэ стрэльбу і хаваецца за сьцяною. Ігната заўважыў Зьмітрок. Пасьля, як яго абтрэсьлі, ён аб гэтым потым шэпча Хведару). Гэта вецер, вецер вінаваты! (Б'е Зьмітрака).

Зьмітрок. Паночку, паночку, баліць!

1-ы паляк. Покаж у цебе. (Дастае кусок). Паглядзьце людзі, што нарабіў вецер! (Б'е Хведара). А вот табе вецер, а вот табе вецер. (Падыходзіць да Аляксея). Покаж у цебе!

Аляксей. Калі ласка. (Аддае сам).

1-ы паляк. І гэта вецер? і гэта вецер? (Пры гэтых словах б'е).

2-гі паляк. Цо з іх бэндзе, як падрастуць...

Аляксей. Вас з Беларусі да Польшчы вытурым!

2-гі паляк. О, матка боска, што з імі рабіць? Цо за дзеці!

1-ы паляк. А цо рабіць — пагонім да гміны. Бацькі прыдуць, мы з імі пагутарым. Панясуць яны адказ і за тэлефон і за тое, што падвялі нас з хатаю Банадыся, за ўсё разьбярэмся.

2-гі паляк. Станьце до боку! (Хлопцы становяцца ў патыліцу).

1-ы паляк. А дзе мая стрэльба?

Зьмітрок. А хіба яна была ў пана?..

Хведар. Мабыць пан дома пакінуў.

1-ы паляк. Калі ня зьвернеце мне зараз — алох вам на месцы... Хто схаваў, кажэце? Дзе?!

2-гі паляк. Матка боска, цо за дзеці. Ну, цо з імі рабіць?

1-ы паляк. Мууўце?!. Зьвярнеце стрэльбу?

Усе. А хіба мы яе бралі?

1-ы паляк. О, Езус, О, Мар'я! Паставіў стрэльбу каля плоту, на хвіліну адвярнуўся — сьвіснулі... Як я цяпер пакажуся начальству ў вочы, з мяне сьмяяцца будуць, пальцамі затыкаюць. І гэта ня ўшыстко... Мяне пасадзяць. За вас, за вас, о, д'яблы, сядзець буду. (Ходзіць злы). Не, я стрэльбу адшукам, я стрэльбу адшукам.

2-гі паляк. Цо за дзеці, — ліхія дзеці!

1-ы паляк. Апошняя просьба — зьвярнеце стрэльбу?! Маўчыце. Не? Запру ў хату ды падпалім усіх!

2-гі паляк. Толькі едын выхад, только едын.

1-ы паляк. Марш у хату! (Запірае).

2-гі паляк. Ну, цо?

1-ы паляк. Ну, цо? Запалю ды пойдзем. (Становіцца на плотчык, дастае запалкі і паліць. Чуваць крык. Запалкі і карабок вывальваюцца з яго рук і ён стаіць абнямелы. 2-гі паляк не знаходзіць сабе мейсца, бегае па сцэне, выпускае з рук стрэльбу. На сцэну ўрываюцца тры партызаны, з імі Ігнат са стрэльбаю. Відаць надыходзяць сяляне).

Банадысь. Вось і я, Банадысь Пабягунчык. Пшапрашам, панове, цо пузьне пшышэд. (З хаты праз вакно чуваць стук. Голас: адчынеце). Адзін з партызанаў ідзе адчыніць хату).

Ігнат. А вось і стрэльбачка ваша — пазнаеце? (Першы і другі паляк стаяць анямеўшы).

Зьмітрок. Заперлі нас у хаце ды падпаліць хацелі.

Банадысь. Зьвязаць іх хлопцы! Ды за мной! (Партызаны спрытна хватаюць палякаў і вяроўкамі назад вяжуць ім рукі).

*Заслона.*

**А. БІРАЛА.**

# Пабудуем самалёт „Школьнік“.



## Хто яшчэ?

Наша школа прымае актыўны ўдзел у зборы грошай на самалёт „Школьнік“.

Пакуль што мы сабралі па падпісному лісту 2 руб.

(Ляды, Аршаншыча).

## Пабудуем свой самалёт.

У нашай школе па гэтаму пытаньню быў праведзены тэрміновы сход фарпосту. Зараз-жа былі абраны прадстаўнікі ад усіх груп, якія ўзяліся за гэтую працу. Вучні, асабліва нашай школы, добра адгукнуліся на гэтае пытаньне і ахвотна ўносяць грошы на пабудову самалёту „Школьнік“. Паміж асобнымі групамі абвешчаны конкурс на лепшыя зборы, што яшчэ больш падганяе вучняў.

**Райнес.**

(Н.-Барысаў).

## 67 руб. на „Школьнік“.

6-га лістапада на паседжаньні школькому Асіпавіцкай чыгуначнай школы быў заслухан даклад аб пабудове самалёту „Школьнік“ і абгаварвалася пытаньне аб удзеле нашай школы ў гэтай справе.

Парашылі правесьці кампанію ў сваёй насьценнай газэце „Чырвоныя праменьні“, сабраць грошы сярод школьнікаў па падпісному лісту, арганізаваць вучнёўскую ячэйку „Асоавіяхім“ і ўсімі сіламі падтрымаць кіно-карціну, якую выпісала мясцовая ячэйка Асоавіяхіму. І вось па падпісному лісту вучні 1-га канцэнтру сабралі 7 руб. 13 кап. Больш за ўсіх дала IV-ая група *Б* (2 руб. 18 кап.), вучні другога канцэнтру сабралі 1 р. 25 к.

Такім чынам разам з кіно мы мелі чыстага прыбытку 67 руб. 30 кап.

Вучні: **Чыгалейчык, Процька, Макарэвіч.**



## Ваенізацыя ў нашай школе.

Выявілася, што ў нашай школе вучні вельмі цікавяцца ваенізацыяй. Пагэтаму мы зьвязаліся з чырвонаармейскім палком, які вылучыў аднаго таварыша. Гэты чырвонаармеец арганізаваў у нас стралковы гурток.

У гурток запісалася 80 таварышоў. Гэтыя-ж таварышы запісаліся і ў ячэйку Асоавіяхіму. На занятках гуртка мы вучымся, як карыстацца процівагазам, вывучаем вінтоўку і вучымся страляць, набываем розныя хэмічныя веды.

Часта мы ўсім гуртком наведваем чырвонаармейскія казармы, дзе знаёмімся з жыцьцём нашых старэйшых таварышоў чырвонаармейцаў.

У адзнаку нашай дружбы з чырвонаармейцамі, мы зрабілі ім падарунак.

Чырвонаармейцы былі вельмі задаволены і нашы сябры гуртка таксама.

(Барысаў).

Дзяткоры { **Хайцін.** **Гурэвіч.**

# НАША ГАЗЭТА

№ 5 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 5

## БОЛЬШ-БЫ ТАКІХ ГУРТКОЎ.

Сёлета, у нашай школе арганізаваўся гурток натуралістых. Зьбіраецца гурток раз у два тыдні. Вучні прыходзяць на заняткі гуртка з вялікай ахвотай. Спачатку мы ўтварылі групкі па 2—3 чал. (звычайныя сэкцыі), кожная група ўзялася дасьледваць жыцьцё шкодных і карысных насякомых, птушак, рыб і г. д.

Пра кожную навіну і вынаходніцтва сэкцыя дакладвае на зборы гуртка ў прысутнасьці кіраўніка.

Праца праходзіць пакуль што цікава і весела.

Каб больш было гэткіх гурткоў, то менш было-б людзей, якія ня ведаюць жыцьця прыроды.

(Практыкавальна-паказальная школа пры БПТ).

Гайко.

## Ячэйка дапамагла.

Каб мець добрую практыку ў працы сярод піонэраў, трэба, ў першую чаргу шмат чытаць піонэрскай літаратуры, якая дае напрамак у працы.

У нашым атрадзе зусім амаль ня было патрэбнай літаратуры для чытаньня. Але нам дапамагла ў гэтым ячэйка. Яна сабрала грошы і выпісала нам беларускі піонэр“, „Пионерскую Правду“ і часопісь „Вожатый“. Піонэры вельмі задаволены гэтай дапамогай.

(Магілеўшчына, Бяседавіцкі атрад).

М. Лупікаў.

## Шумавы аркестр у атрадзе.

У нас, у *мястэчку Леніна*, ёсьць 2 атрады, пры якіх арганізаваны шумавы аркестр. Гэты шумавы аркестр дае атрадам вельмі вялікую карысьць. Мы часта выступаем на сцэнах і зарабляем грошы ў карысьць нашага атраду. Усім нашы канцэрты вельмі падабаліся.

Дзякуючы шумавому аркестру мы шмат неарганізаваных уцягнулі ў атрад. Цяпер гэтыя неарганізаваныя сталі піонэрамі.

Л.



## Усялякі адказ

*на пытаньні піонэраў і вучняў дасьць* Піонэрскі габінэт. *Шлеце свае лісты па адрасу: Менск, Комсамольская, 2б, клюб „КІМ“, Піонэргабінэту. Калі хто з піонэраў будзе слаць свае запытаньні разам з допісамі ў рэдакцыю, дык лепш усяго запытаньні ўкладайце ў канвэрт асобнымі лісткамі з паказаньнем дакладнага адрасу (такія лісткі рэдакцыя сама перадасьць піонэргабінэту).*

## Таварыская дапамога.

У нашай школе арганізована каса дапамогі бедным вучням.

Мы ўжо сабралі 16 руб. 2 кап. Частку гэтых сродкаў мы аддалі на тое, каб пашыць аднэй беднай вучаніцы паліто.

(Дуброўна, Аршаншчына).

Пэўзьнер і Даўгман.

## Вучымся маляваць.

На што часта не зьвяртаюць увагі атрады.

Пры нашым атрадзе імя Войкава арганізаваўся гурток маляваньня. Гэты гурток ставіць сабе мэтай навучыць піонэраў размалёўваць насьценныя газэты. Бо да гэтага часу ў нас маляваў толькі павадыр.

У гурток запісалася 30 чалавек.

(Ляды, Аршаншчына).

М. Фрадкін.

## Удар па чубох.

У гэтым годзе загадчык школы купіў машынку дзеля стрыжкі валасоў.

Кожны вучань, які хоча падстрыгчы валасы, плаціць 3 кап. за машынку і 1 кап. асобе, што стрыжэ.

Цяпер вучні ўжо ня прычэсваюць чубоў, бо іх ужо няма:

А як другія вучні?

(М-ка Карма, сямігодка.)

[illegible]кевіч

## Бяднейшым вучням.

Фарпост Ляднянскай сямігодкі арганізаваў падпісныя лісты для збору сродкаў у карысьць бяднейшых вучняў. Першы падпісны ліст даў 7 рублёў, другі—18 рублёў. Гэтыя грошы пашлі на карысьць школы. Але мы не адны карысталіся гэтымі грашыма. Мы рашылі дапамагчы і нашай падшэфнай школе. Мы паслалі туды 20 алоўкаў, 25 сшыткаў і інш.

А дзе яшчэ так робяць?

Ф. З.

## Уночы

Чорнай кошкаю крадзецца ноч
з міліярдамі воч-агнязорак.
Кучаравы каштан за вакном
п'е халодную вільгаць бадзёра.
Я-ж у пазурах сну варушуся.
зьнiклi рэчы і межы-абшары.
Нібы ўвосень крыклівыя гусі,
адлятаюць апошнія мары.
За вакно уцякае падушка,—
мне здаецца, і жудасна гэтак,
тонкі пах прабіраўся ігрушаў
цераз фортку, прыемна сагрэты.
Цішыня у буйналістым садзе.
Цішыня і ў пакоі таксама.
Хто рукой валасы мае гладзіць
і прыветна глядзіць гэтак?..
— Мама...
О, няўжо? Адчыняю павекі.
Прыпадняўся крыху на пасьцелі.
Пуста. Глуха. Няма чалавека.
Адны цёмныя плямы пусьцелі
Я адзін...
У пакоі нікога.
Расчыняю вакно і дзіўлюся.—
Бэраў—многа,
антонавак—многа...
Гэты сад залаты ў Беларусі.
Пад кустамі халодныя цені,
На кустох ня лісты—павуціньне,
І паплылі мае лятуценьні,
іх ніхто не дагоніць, ня спыніць.
Чорнай кошкай падкралася ноч
з міліярдамі воч-агнязорак.
Ночка сочыць за мною даўно,
ціха шэпчучы:—„сьпі, непакора!“

Рыгор Казак

## У паход па культуру.

Піонэры за час культурнага паходу дабіліся вялікіх дасягненьняў.

Культурны паход піонэраў яшчэ не закончыўся, аднак той матар'ял, які ўжо маецца, гаворыць пра цэлы шэраг важных дасягненьняў.

Каштоўна тое, што кожны атрад правёў некалькі канкрэтных грамадзка-карысных справаў.

Будзем даводзіць гэта мовою фактаў.

### За грамату.

**Віцебскі** атрад шчаціньнікаў выявіў няпісьменных дзяцей і організаваў для іх гурткі. Віцебскі-ж атрад дрэваапрацоўнікаў вылучыў старэйшых піонэраў для ўдзелу ў ліквідацыі няпісьменнасьці.

**Бабруйскія** піонэры правялі па горадзе вучот 50-ці дзяцей, якія не ахоплены школай.

**Магілеўскія** піонэры выявілі ў горадзе каля 300 няпісьменных грамадзян. Выяўлена 12 няпісьменных дзяцей, якіх цяпер навучаюць грамаце.

Было распаўсюджана 8000 лётарэйных білетаў на карысьць няпісьменных і бяспрытульных.

**Азарышчынскія** піонэры (Мазырскай акругі) абслугоўваюць сваімі сіламі лікпункт.

### За чыстату і ахайнасьць.

Па **Віцебску** праведзены санітарны агляд.

Па **Гомельскай** акрузе шэраг атрадаў правялі бытавое абсьледваньне піонэраў, сан. агляд. Організуюць колектыўныя паходы ў лазьню.

**У Слуцку** школа правяла конкурс на лепшую культурную клясу школы.

**Бабруйскі** атрад Рабіс правёў бытавы агляд піонэраў, пасьля гэтага склікаў нараду бацькоў, на якой абгаварылі нездаровыя зьявішчы ў быце дзяцей.

Вучні пачалі трымаць сябе больш культурна. У часе заняткаў распранаюцца і г. д.

**У Барысаве** шмат якія піонэры і школьнікі пачалі стала чысьціць зубы, у школах паставілі плявальніцы.

### Супроць п'янства і хуліганства.

**Нова-Беліцкі** атрад (Гомельшчына) выступіў супроць п'янства.

Па ініцыятыве **Мазырскага** чыгуначнага атраду забаронена гандляваць сьпіртнымі напіткамі ў станцыённых буфэтах.

**Бабруйскія** піонэры організавалі паказальны суд над хуліганамі.

### За культурны адпачынак.

**Віцебскія** піонэры паставілі пытаньне аб організацыі агульна-гарадзкога піонэрскага клюбу. Кожны тыдзень наладжваюцца кіно-ранішнікі для дзяцей.

Атрад мэталістаў устанавіў радыё і організаваў радыё-гуртох.

Першая Віцебская школа правяла конкурс на падпішчыкаў газэты. У выніку—300 чытачоў.

Гомельскія піонэры правялі суд над піонэрам, які ня чытае газэты і кніжак.

### Дапамога бедным вучням.

У 7-ай Магілеўскай школе 8 бедных дзяцей карыстаюцца дармовым сьнеданьнем.

У Мазыры 2 школы сабралі 28 руб. на карысьць школьнікаў—дзяцей беднаты.

### На вёсцы.

У адным вясковым атрадзе Віцебскай акругі піонэры правялі конкурс скакуноў і музыкантаў. Конкурс прайшоў з вялікім посьпехам, у ім прыняло ўдзел 90 чалавек дзетвары.

### Некаторыя падагульненьні і вывады.

Неорганізованыя дзеці да ўдзелу ў паходзе былі прыцягнуты слаба. Гэта адзін з галоўных недахопаў як у горадзе, гэтак і на вёсцы.

На вёсцы культпаход да гэтай пары не адчуваецца. Неабходна кінуць сілы на правядзеньне яго там.

Піонэрскія атрады павінны замацаваць дасягнутае імі і зрабіць гэта пачаткам штодзеннай барацьбы за культуру, за новы быт.

Э. Г.

# Зімовыя гульні

## Не пападайся.

*Лік удзельнікаў*—20—30 чалавек.

*Прылады для гульні* — істужкі двух колераў.

*Разьмяшчэньне ўдзельнікаў* і разьбіўка пляцоўкі. Адкрытая пляцоўка падзелена рыскаю на дзьве роўныя часткі. У кожным канцы пляцоўкі лініямі адзначаюцца гарады. Усе ўдзельнікі падзяляюцца на дзьве партыі. Кожная партыя займае месца на адным баку сваёй пляцоўкі і ў горадзе. Два ці тры ўдзельнікі з кожнай партыі (у залежнасьці ад пляцоўкі і ліку ўдзельнікаў) ідуць у поле супраціўніка, займаючы мейсца ў сярэдзіне пляцоўкі. Гэтыя ўдзельнікі павінны быць адзначаны каляровымі істужкамі.

*Апісаньне гульні.* Па сьвістку кіраўніка ўдзельнікі гульні з кожнай партыі павінны прабрацца ў другі горад, не забягаючы на поле супраціўніка і не пападаючыся абаронцам. Кожны, у каго пападзе сьнежка, выбывае з гульні.

лінія | гораду

× × × | ◎ ◎ ◎

лінія | гораду

ооооооо | ×××××××

Перабегчы з гораду ў горад праз сярэднюю лінію павінны ўсе ўдзельнікі гульні. Тыя-ж, што пярэйдуць першымі, могуць адманьваць абаронцаў, не забягаючы назад за сярэднюю лінію.

Калі ўсе зрабілі перабежку, яны павінны вярнуцца зноў у першы горад. Пасьля гэтага падлічваецца лік нязлоўленых удзельнікаў гульні. Партыя, якая захавае большы лік нязлоўленых, выйграе.

*Правілы гульні.* 1. Удзельнік, заплямлены сьнежкай або перабегшы на поле супраціўніка, лічыцца злоўленым. 2. Удзельнікі, якія адманьваюць абаронцаў, будучы выцятымі сьнежкамі ў полі, лічацца злоўленымі. За рысай гораду сьнежкамі ня б'юць.

## Стралкі.

*Лік удзельнікаў—10—15 чалавек.*

*Гульня праводзіцца сьнежкамі.*

*Расстаноўка ўдзельнікаў і разьбіўка пляцоўкі.* На адным баку пляцоўкі робіцца з сьнегу слуп, вышынёй у адзін мэтр. На яго кладзецца мяч (баскетбольны). На адлегласьці 8—9 мэтраў праводзіцца рыса, за якою становяцца ўсе ўдзельнікі гульні, разьлічыўшыся па парадку нумароў.

*Апісаньне гульні.* Кожны ўдзельнік па парадку кідае трыма сьнежкамі ў мяч, стараючыся зьбіць яго з слупа. Калі хто-небудзь саб'е мяч, ён паднімае адну руку ўверх і крычыць „стой!" у той час як усе іншыя рассыпаюцца па ўсёй пляцоўцы. Пасьля каманды „стой", кожны спыняецца на тым месцы, дзе захопіць яго гэты крык. Удзельнік гульні, які саб'е мяч і крыкне „стой", ня сходзячы з месца, мае права тры разы кінуць сьнежкамі ў каго-небудзь з уцекачоў, а гэтыя стараюцца вывернуцца, ня сходзячы з мейсца. Калі таму, што кідае сьнежкі, удалося папасьці ў каго-небудзь, дык пацярпеўшы становіцца ў канец шэрагу і кідае апошнім. Пры добрым пападаньні ён зноў становіцца першым. Калі-ж ён не пападзе, дык зноў становіцца ў канец.

*Правілы гульні.* 1. Усе ўдзельнікі павінны стаяць ля праведзенай рысы ў момант кіданьня сьнежак. 2. Разьбягацца можна толькі тады, калі мяч зьбіты. 3. Пасьля каманды „стой", перабягаць з мейсца на мейсца ня можна. 4. Кідаць можна толькі па парадку нумароў; хто парушае гэта правіла, той выбывае з гульні.

## Эстафэта зьмейкай.

*Лік удзельнікаў*—ад 20-ці да 30-ці чал.

*Прылады для гульні*—канькі.

*Разьмяшчэньне ўдзельнікаў* і разьбіўка пляцоўкі і гульня адбываецца на катку. Усе ўдзельнікі падзяляюцца на дзьве роўныя партыі, кожная партыя разьлічваецца па парадку нумароў. Няцотныя нумары становяцца ў адзін бок, цотныя—у другі. Кожная партыя займае месца асобна.

*Апісаньне гульні.* Пасьля каманды— „увага, марш“, першыя нумары кожнае партыі адначасова бягуць да другіх нумароў сваёй партыі, бяруцца за рукі і падваіх, разам, бягуць да трэціх нумароў, потым да чацьвертых і так да апошніх. Разам з апошнімі ўсім шэрагам бягуць да мейсца, дзе стаялі няцотныя нумары. Партыя, якая прыдзе першай, выйграе.

*Правілы гульні.* 1. Калі ўдзельнікі разарвуць свой жывы ланцуг, дык ня могуць бегчы далей, пакуль зноў ня возьмуцца за рукі. Канец бегу залічваецца па апошняму, г. зн. калі ўсе ўдзельнікі жывога ланцуга пройдуць лінію няцотных нумароў.

| | |
|---|---|
| $X_1$ → | $X_2$ |
| $X_3$ → | $X_4$ |
| $X_5$ | $X_6$ |
| $O_1$ → | $O_2$ |
| $O_3$ → | $O_4$ |
| $O_5$ | $O_6$ |

*Увага.* Раіцца больш дужых і спрытных бягуноў ставіць першымі. Каб больш зручна можна было трымацца, можна мець абручыкі з вяроўкі.

## Абарона сьцягу.

*Лік удзельнікаў*—ад 18-ці да 20-ці чалавек.

*Прылады для гульні.* Каляровыя істужкі для адзнакі ўдзельнікаў. Сьцяг. Сьнежкі.

*Разьмяшчэньне ўдзельнікаў і разьбіўка пляцоўкі.* Усе ўдзельнікі падзяляюцца на дзьве партыі. Кожная ў адзнаку ад другой адзначаецца каляровымі істужкамі. Адна партыя „абарона“ займае мейсца па кругу, адзначанаму рыскай на адлегласьці двух мэтраў адзін ад аднаго. У цэнтры круга ставіцца сьцяг. Другая партыя займае мейсца за кругам у абыякім парадку.

*Апісаньне гульні.* Па сыгналу ўдзельнікі партыі, якая знаходзіцца за кругам, стараюцца прабрацца ў цэнтр, да сьцягу, стараючыся ня быць пабітымі сьнежкамі ўдзельнікаў з абароны. Тыя ў сваю чаргу, не прапускаюць іх праз лінію круга.

Калі трое ўдзельнікаў пралезьлі да сьцягу, першы з іх паднімае сьцяг і адносіць яго ў бок. У той-жа час усе ўдзельнікі разьбягаюцца па пляцоўцы. Партыя якая наступае, павінна перабіць сьнежкамі партыю абароны; кожны, у каго пападзе сьнежка, выбывае з гульні.

Гульня канчаецца, калі ўсіх удзельнікаў абароны заплямяць сьнежкамі. Адзначаецца час з моманту пачынаньня гульні. Удзельнікі мяняюцца мейсцамі і гульня аднаўляецца. Партыя, якая здолее за меншы тэрмін заплямiць усіх удзельнікаў абароны, выйграе.

*Правілы гульні.* 1. Удзельнік, які не заплямленым пройдзе лінію круга, ідзе да сьцягу. 2. Кожны заплямлены лічыцца злоўленым. 3. Партыя абароны адбівацца ня мае права.

## Засада.

*Лік удзельнікаў*—ад 10-ці да 40 чал.

*Прылады для гульні.* Сьнежная сьцяна (вал) у два аршыны вышынёю і ў пяць—дзесяць шагоў даўжынёю. Сьнежкі і сьцяг.

*Разьмяшчэньне ўдзельнікаў* і разьбіўка пляцоўкі. Усе ўдзельнікі падзяляюцца на дзьве роўныя партыі. Адна партыя зьмяшчаецца за сьнежным валам, другая на адлегласьці 20 шагоў ад яго, дзе праводзіцца мяжа яе лягеру. Пасярэдзіне сьнежнага валу ўтыкаецца сьцяг.

*Апісаньне гульні.* Партыя, якая знаходзіцца за сьнежным валам, вартуе сьцяг. Партыя, якая знаходзіцца ў лягеры, стараецца захапіць сьцяг, наступаючы на сьнежны вал. Адны з другімі перакідваюцца сьнежкамі. Удзельнік, у якога пападзе сьнежка, лічыцца забітым і выбывае з гульні.

*Гульня канчаецца*: 1. Калі ўсе ўдзельнікі наступаючай партыі альбо партыі, якая вартуе сьцяг, будуць перабіты і 2-ое, калі ўдзельнік, які схопіць сьцяг, будзе „забіты“ супраціўнікамі.

Партыя, у якой усе ўдзельнікі будуць „забіты“, альбо будзе „забіты“ ўдзельнік з сьцягам, лічыцца прайграўшай.

*Правілы гульні.* 1. Удзельнікі партыі, якая вартуе сьцяг, ня маюць права выходзіць з-за сьнежнага вала ўперад. 2. Кідаць сьнежкамі ў удзельнікаў з нападаючай партыі можна толькі на полі, але ня ў іх лягеры.

# Жаба ў каляіне



*Байка* **Крапівы.**

*Малюнак* **Гуткоўскага.**

Пагода—проста нібы дым.
У вёсцы рух, у вёсцы ўздым,—
Упарта кліча сенажаць,
І ні старым, ні маладым
Тут некалі ляжаць.

Сьцяжынкі зранку па расе
На сенажаці праз гароды
Укрылі луг, нібы гусей
Стракатыя чароды.

Грабель мільганьнем, звонам кос
Трымцяць лілёвыя прасторы.
І вось, нібы ў зялёным моры,
Плыве бухматы воз.
Далоньню ўцёршы потны лоб,
Як паміж рыфаў, паміж коп.

Лахматы капітан яго вядзе.
Ён важнасьць твару надае
І, каб ня стала, загадзе
Сваёй адзінай конскай сіле,
Якая й так напруджвае ўсё жыльле,
Ён пугай пары паддае.

Яно хоць „сілы“ трохі й шкода,
Ды некалі—стаіць пагода,
Аж смагне ныючы асірацелы куст.
А жабе вельмі не пад густ.

Вось гэта музыка такая:
І сонца горш цяпер пячэ,
Скарэй і бусел яе ўбача,
І, як яна тут ні ўцякае,
Як ні скача,
У цень нікуды не ўцячэ.

А ўсё двуногі гэты госьць
З сваім вялізным возам!
Апанавала жабу злосьць,
І падказаў ёй жабін розум:

„Ага, ну-ну!“
Ты пажыві яшчэ хвіліну,—
Вось толькі сяду ў каляіну,
Плячом пад кола таркану
І к чорту воз пераварну.

Тагды—капут, і ты мяне ня зловіш,
Бо галаву напэўна зломіш“.
І—скок! жабоцька сьмела
Ды ў каляіну села,
Тут колам—хрась!..
І кроў і гразь...

. . . . . . . .

Пад кола жаба не падлазь.

---

Ці не такі-ж і кожнай жабы лёс,
Што лезе пад савецкі воз?

# Казёл Мэка і Кудла

Да Сымонавых прыехаў у госьці дзядзька Міхалка.

Пабеглі Зося з Уладзікам сустракаць яго. Глядзяць, на возе шавеліцца нешта беленькае.

— Што гэта ты, дзядзька, ягнятка прывёз?—пытаецца Зося.

Але пакуль дзядзька справіўся адказаць, скокнуў на зямлю з возу маленькі казельчык.

Упяршыню пабачылі дзеці казла. Пазналі, што не ягнё, а хто—ня ведаюць.

— Казла вам прывёз. Гадуйце яго, гуляйце з ім,—кажа дзядзька.

Сьмяецца ён, гледзячы, як нясьмела падступаюцца да казельчыка дзеці.

Казельчык маленькі, поўсьцячка на ім беленькая, мяканькая, ножкамі ён ступ-ступ, галоўкаю круць-круць.

Прывезьлі яго ў незнаёмае месца, няма маткі. І замэкаў ён жаласна.

— Казелька, ня плач,—сьцішаюць, гладзяць яго па сьпіне дзеці,—мы цябе жалець будзем, крыўдзіць ня будзем.

Прывялі яны казельчыка ў хату, есьці яму падносяць: хлеба скарыначку, бульбіну. Не бярэ есьці казелька. Тады налілі дзеці ў місачку малака, казьліную мордачку прыгнулі, макаюць—„пі“, кажуць яму.



А ён ножкаю на беражок міскі ступіў, пацякло малако па падлозе белаю палоскаю.

Ходзіць казёл па хаце. На лаву скокнуў, а з лавы на стол, на стале соль стаяла, ён соль палізаў.

Зося зьбегала ў пуню па сена, паслала казельчыку ў куточку пасьцельку, схапіла казла на рукі,—цяжка несьці, малая яна яшчэ дзяўчынка,—і палажыла на сена.

— Сьпі,—кажа,— тут мякка.

Непаседліў казёл. Ізноў па хаце капыточкамі стукае.

Цалютанькі дзень прагулялі з казельчыкам дзеці. Змарыліся яны, змарыўся казелька—спаць паляглі.

Прыжыўся казёл у новым дварэ, усюды брыкае, мэкае.

Пабольшаў троху, вырасьлі ў яго рожкі. Бяжыць ён на дзяцей, лоб настаўляе, бароцца хоча.

— Ой,—крычаць, жартуючы, дзеці, ідзе страшны зьвер Мэка, ён можа ўбароць чалавека.

Так і празвалі яго казлом „Мэкам“.

Рос казёл. Дзецям з ім ужо досыць забаўляцца. Улетку хапае ім рознае гульні на волі: на поле, у лес бегаюць, а то проста так, па вуліцы з сябрамі табуном носяцца.

Адзін астаўся Мэка. Нудна яму. Стаў ён шукаць сябра і здружыўся з сабакам.

Сабака гаспадароў, на мянушку Кудла, быў вялікі, кудлаты, з белажоўтаваю поўсьцю.

Можа ён здаўся казельку сваёю доўгаю сьветлаю поўсьцю падобным да Мэкавае маткі—казы, а можа таму, што і Кудла быў з ім ласкавы, стаў гарнуцца казелька да сабакі.

Сьпяць яны разам. Дзе сабака ляжа, там і Мэка мосьціцца. Сварыцца ім ня было за што. Казёл траву скубе, лісьцё з кустоў аб'ядае, а гэта не сабачая яда.

Быў Кудла наўзьдзіў жарлочны. „Есьць, як не ў сваё“,—казаў на яго гаспадар.

Калі ўб'ецца ён у хату, вока з яго ня спушчай. Буханку хлеба са стала сьцягне, сьвіную мешанку пажарэ. І па чужых дварох быў добры майстар цягацца, усюды шукае сабе пажывы.

Што-ж ён вінаваты, калі заўсёды есьці яму хочацца. Гаспадар яго бедны, за панамі і сам ня дужа раскорміцца, дзе яму сабаку добра ўкарміць. І цягаецца Кудла ўсюды, каб толькі спажыву сабе здабыць.

Раней ён адзін бегаў, а цяпер у пары. Не астаецца ад яго ні на крок Мэка.

Бяжыць Кудла наперадзе, бахматы хвост распушыўшы, а казелька кароценькім хвастом ківель-ківель, трушыць адзаду.

Усе куткі вынюхаў сабака, ці няма дзе якой ежы. Нідзе нічога не падхапіў. Галодны час на вёсцы, якраз перад жнівом.

Бяжыць Кудла задворкамі, і Мэка ад яго не астаецца. Дабеглі да папоўскага саду.

Стаў сабака, носам пацягнуў паветра. Пахне смажаным, і так смачна пахне. Паркан у садзе нявысокі, пераскочылі абодва.

Вокны ў паповым доме расчынены. Падняўся сабака на заднія лапы, пярэднія на вакно паклаў. Зірк у хату. Нікога няма ў пакоі.

Стаіць там стол, белым абрусом пакрыты, а на стале яды ўсякае поўна: мяса і варанага, і смажанага, нарэзана, раскладзена па талерках, рыбіна вялікая на паўміску белым вокам на іх глядзіць.

Не разважаў доўга сабака. Скокнуў праз вакно ў пакой ды на стол, Мэка за ім сьледам. Кудла ўсё, што пад морду трапіць, хапае, сьпяшаецца жорці. Раз—раз,— няма нарэзанае шынкі, яшчэ колькі разоў хоп-хоп—бараніна ў Кудлiным жываце апынулася. Нарэшце ён за рыбіну ўзяўся.

А Мэка па сталу шпацыруе, асьцярожненька ножкі тонкія між талерак, чарак і бутэлек перастаўляе.

За сьцяною гоман, сьмех. Казёл вушкі паставіў, галоўку схіліў на бок, слухае. Потым панюхаў, панюхаў паветра. І яму нечым смачным запахла. Глянуў, стаіць на стале талерка з нейкаю зялёнаю травою. Казелька адну лісьцінку салаты скубель, пацягнуў, пажваў, смачна... І ён здаволена замэкаў: Мэ-мэ-мэ!

Гоман за сьцяною сьціх. Дзьверы скрыпнулі. Спрактыкаваны сабака рынуўся са стала раней чым пападзьдзя справілася ўвайсьці ў страўню.

А яна ўвайшла і прарэзьліва крыкнула:

— А, ратуйце! Што гэта?

Тымчасам і казелька агледзеўся, што Кудлы няма, трэба і яму ўцякаць.

Аж тут бяжыць адзін поп, чорны, высокі, калматы, бяжыць другі поп сьветлы, з барадою аблезлаю, бяжыць трэці поп, з барадою рудою, усе госьці бягуць.

Крычаць усе, казла ловяць.

Спудзіўся казелька, кінуўся ў адзін бок, у другі, у нечыя рукі трапіў, страпянуўся, вырваўся, на падлогу бразнуўся



і ўсё-такі неяк справіўся ў вакно выскачыць.

Не глядзіць, дзе Кудла падзеўся, сам адзін у свой двор уцякае.

Прыбег бяз духу, а Кудла ля цабэрка стаіць, ваду смагла жлукціць.

Замэкаў казелька і жаласна і радасна. Жаласна, бо крыўду меў на Кудлу, што той кінуў яго аднаго; радасна, бо йзноў яны разам у дварэ апынуліся.

**Л. Чарняўская.**





# ПАСТУХ АЙЗЭПКА.

Гэты, досыць мастацкі і лёгкі па рытму, верш яскрава замалёўвае адзін кавалачак жыцьця бядняцкай моладзі на Каўказе. Шукаючы сабе працы, моладзь ідзе на службу к кулакам, якія з імі жорстка абыходзяцца.

I.

Ля Мцхета старога
Старая гара...
Ускудлаціўшы вал,
Шырокай дарогай
Бушуе і мкнецца,
Жартуе Кура.
І гуд аддаецца,
Грукоча, як шквал.
І дзесьці за Мцхетам
Лясы, як паркаль...
Сьпякотная ўлётку
Нябесная даль...
А травам зялёным
Сьпякота-бяда...
На маравых гонях
Там статкаў града.

Па кручах каменных
Ідуць бараны,
І ежы адменнай
Шукаюць яны.
Як хораша ў ліпень
Абшчыпваць гару...
Ім хочацца выпіць
Да рэшты Куру.
Прыходзяць на бераг
На вадапой...
Становяцца ў шэраг
Вясёлай гурбой.
Вось морда глытае
Ваду далавах...
Сапраўды, дурная
Ў авец галава...
Шляхоў вадапойных
Ня ўтопіш сьляды.
З Куры непакойнай
Ня выпіць вады.
Авечка нап'ецца
І зноў на лугі.
Пярсьцёнкамі ўецца
Рагоў перагіб.
Барашкаў для ежы
Трымаюць заўжды...
Адкормяць — зарэжуць
На тлусты шашлык.
Падчэпяць, падпаляць
Ды маслам зальлюць
І з прымешкай смагі
Са смакам зьядуць.
Ўздыхнуць — „малавата"
Ды покуль, — няхай!"
Ды гэта — пачатак,
Канца пачакай!..

II.

Круціцца вечна
Дзён чарада...
Ёсьць у авечак
Васо — гаспадар...
Тлусты і гнеўны,
Як зграя кітоў...
Важыць, напэўна,
Дваццаць пудоў.
Дні нашы кануць
Золкай расой...
Ў шуме духана
Млее Васо...
Жыцьцё — маліна,
Жыві бяз турбот...
Моцныя віны,
Моцны народ.
У рогаце й жартах
Год прамінай,
Пульхныя кварты
Льлюцца — трымай!
Госьцям духану
Паболей давай...
Смаж бараны ім, —
Гонар трымай!..
Ды не падгадзіць
Ім гаспадар!..
Мыецца ў чадзе
Дзён чарада.

III.

Сонца над рэчкай
Пячэ ў прыпар...
Ёсьць у авечак
Другі гаспадар!..
Худы, нібы трэска,
Лёгкі, як пух.
Гэта — Айзэпка,
Пастух.
Мала ён ведаў
Вясёлых хвілін.
Часта абедам
Быў хлеб адзін.
Дні прыціскалі
Жыцьцёвы разьбег...
Пуры і ухалі —
Добры абед!
Усё-ж такі цела,
Мацнела штогод!..
. . . . . . . . .
Раз зазьвінела
Жалейка між гор!
Позна ці рана —

З пугаю быць!..
Вось і наняўся
Айзэпка служыць...
Моцна ён любіць
Сваіх бараноў,
Пэўна што будзе
Пастух з пастухоў,

IV.

Вясною заўсёды
Сінее ў вачох...
... Аднойчы навала
Гручэла ў палёх.
Ля Мцхета старога
Прамчаўся уздрыг
Па пыльных дарогах
З вірлівай Куры.
І гул пяруновы
Навокал прайшоў
У цясьнінавых сховах
Стралам і размоў.
Страла за стралою...
Навісла бяда.
Маўчыць пад скалою
Авец грамада.
І вось дыямэнтам
Блiснула страла—
Разьбіта дашчэнту
Над статкам скала.
І рэха завыла
Ізноў ды ізноў,
Стралой задавіла
Паўсотні галоў...
І вось адшумела
Над кручамі гор...
Іскрыцца ў праменьнях
Далёкі прастор...
Сьляза праступае
З вачэй пастуха, —
Другую навалу
Айзэпку спаткаць!..
Васо над Айзэпкай—
І бацька, і пан...
— „А дзе-ж авечкі,
Бязглузды баран?“
Ад злосьці аж вые,
У гнеў увайшоў...
Кізілавым кіем
Круціць Васо...
І ў роспачы дзікай
Лапцуе яго...
Айзэпкавых крыкаў
Ня чуе ніхто.
Глядзяць невясёла
І горы і стэп...
Пакорліва долу
Схіліўся Айзэп.
Удар за ударам
Ізноў ды ізноў...
Палае пажарам
Гарачая кроў...
Палае пажарам
І летні закат...
Закат жоўтатвары
Палае ля хат.
Плывуць туманы
Над старою Курой...
Цяпер бараны—
Адны пад гарой.
Ня будзіць жалейка
Ізноў паплавы...
У млявасьці нейкай
Люстравая высь.
Віхор не хвалюе
Бялявы туман...
Забыты, пустуе
Маўклівы духан.

V.

Вы, пэўна, цікавымі сталі,—
Пытаеце:
— Што з пастухом?
Айзэпку—
Зьвязьлі да шпіталю,
Васо—
Зацягнулі ў спраўдом!

З расейскага
пераклалі **З. А. і Ю. Т.**

**Увагі:**

Мцхет—даўняя сталіца Грузыі. Кура—рака ў Грузыі.
Пуры—грузінскі хлеб, ухалі—вада.



# ЯК ЗІМУЮЦЬ МУХІ.

Хатнія мухі, падобна другім казюлькам, прыстасаваліся пераносіць халодную пару году ў нярухомым стане. Яны залазяць у шчыліну, у куткі і другія больш-менш спрыяючыя месцы і там засыпаюць на ўсю зіму. Абуджаюцца яны толькі з прыходам вясны. Але гэтыя мухі жывуць ня доўга. Яны адкладваюць яечкі і паміраюць.

Адкладваюць яечкі яны больш усяго ў конскім гнаі, а калі яго няма, то і ў іншым сьмецьці.

З яечак праз 12 гадзін выходзяць маленькія, бязногія, беленькія чарвячкі— мушыныя лічынкі. Гной, у якім яны радзіліся, служыць дзеля іх ня толькі калыскаю, але і запасам яды. Па цэлых днёх яны ядуць яго і праз 2 тыдні закукліваюцца. Дзён праз 12 з гэтае кукалкі выходзіць пажылая муха. Такім чынам, для поўнага разьвіцьця мухі патрэбна каля аднаго месяца. Дзеля гэтага і бывае, што вясною спачатку відаць ня так шмат мух, але ўжо ў самым пачатку лета лік іх значна павялічваецца і вельмі шпарка расьце. Справа ў тым, што маладыя мухі вельмі хутка адкладваюць яечкі, і за лета можа вырасьці некалькі пакаленьняў мух. Увосень частка мух гіне, але шмат якія з іх застаюцца зімаваць.

Перазімоўваць, як мы сказалі, могуць не адны толькі мухі. Розныя казюлькі хаваюцца пад каменьні, мох, у кучы старых лістоў, пад кару дрэў і там зімуюць.

Калі ў халодную пагоду набраць у лесе сухога лісьця; а потым у хаце працеяць яго праз драцяное сіта на ліст белай паперы, дык убачым, што перад намі не абы якая пацяруха, а цэлы жыцьцёвы сьвет казюлькаў, нярухомых і прымёрзлых да лісьцяў.

Але ня ўсе казюлькі зімуюць у сьпячцы. Калі зіма ня вельмі халодная, дык мурашкі ў глыбокіх мясцох мурашніку працягваюць сваю дзейнасьць. Пчолы зімуюць, цесна прытуліўшыся адна да аднэй, і дзякуючы гэтаму тэмпэратура ў сярэдзіне гэтай кучы падтрымліваецца ня менш 12—15 градусаў, хоць вуглы вульля зьмярзаюцца і пакрываюцца лёдам. Памагае пчолам і тое, што яны зімою кормяцца ядою, назапашанай за летні час. Цікава, што ў вос, чмялёў і шэршняў перазімоўваюць толькі маткі. Яны закопваюцца глыбока ў зямлю ці залазяць пад абросшае мохам каменьне, дзе і застаюцца да наступнай вясны.

М. Грамяцкі.



## Цікавы аўтамабіль.

Хто з дзяцей ня марыць паезьдзіць на маленькім аўтамабільчыку. Гэткім зьяўляецца малы амэрыканскі аўтамабіль, які прыводзіцца ў рух сьціснутай паветрай. Паветра накачваецца насосам у асобны рэзэрвуар. Сьціснутае паветра, імкнучыся пашырыцца, штурхае поршань у вальцы рухавіка гэтак-жа, як пара ў паравой машыне. Калі сьціснутае паветра разрэдзіцца, аўтамабіль спыняецца. Тады трэба зноў накачаць паветра, каб рухавік пачаў працаваць і гнаць аўтамабіль уперад.

## ТВОРЧАСЬЦЬ РАБОЧЫХ.



На малюнку — разьба па дрэву: Горкі, Ленін, Талстой, працы рабочага-самавукі Дм. Васільлева.

# Вожык



## Прыгоды Вожыка.

* * *

Да зімы ўсё бліжай, бліжай, і майструе Вожык лыжы. (Аж забыўся аб усім). Езьдзіць па Беларусі па сьнягу наш Вожык будзе. Як жывуць малыя людзі, будзе ён часьцей глядзець. Дзень за днём ідзе, ідзе... Сьнег пасыпаўся пуховы—лыжы Вожыка гатовы!

I.

Паслухайце-ж, што ўбачыў
Вожык, калі паехаў у
Кухценскі атрад,
Вузьдзенскага раёну.

Ледзь-ня-ледзь атрад жыве... І хоць трыццаць чалавек, але-ж працы — ані крышкі. Хлопцы дрэнныя дзялішкі твораць часта: б'юць сабак, не прайсьці ля іх ніяк—бо яны цябе заўзята абсыпаюць едкім „матам“. Клюб „пахучы“ ад цыгаркаў, на падлогу хтось нахаркаў—




бо няма нідзе плявалак. Едкі пыл лятае валам. І бываюць (як на гора!) у атрадзе рэдка зборы. Вось малююць сьценгазэту (захапіліся справай гэтай). „У паход ідзём культурны!“ — кажуць хлопцы звонка, бурна: — „Акультурым нашу вёску!“ А ў зубах-жа папяроску ўсе трымаюць аж ад раньня. А з-пад кістачкі Івана словы пекныя выходзяць: „Нам курыць—занадта шкодзіць“.

II.

**А ў Бялыніцкім атрадзе:**

Павадыр атраду Курчык гультая за ўсёды курчыць. Піонэрскаму-ж атрад ён ня рад, як быццам гаду. Калі збо які назначан—уцячэ куды, няйначай! Б ня любіць надта збору. Галаву-ж задраў шы ўгору, ходзіць, лушчыць гарбузы ну, падобны да бузы. Піонэры-ж гэты часам цераз дзіркі ў дзьверах ласа школу прагна паглядаюць і тае пар чакаюць, покі прыдзе іх важаты. Л дзьвярэй іх многа надта. Адмарозяц „вушкі“, „ножкі“ (бач, замкнула кля старожка). Ідуць да хаты піонэры, ус так злосныя—бяз меры! (бо ня перш гэта раз). А спытай павадыра: ты чам ня быў на зборы? Скажа ў нос ён: быў хворы!

III.

Атрадам, якія ня чытаюць „БП“, прысьвячаю.
*„Вожык“.*

Проста сорамна бяз меры: ня чытаюць „Піонэра“, „Беларускага“, вядома, як у клюбе, так і дома. А чытаць яго ня шкодзіць: у месяц два разы выходзіць, і каштуе ён дзьве грыўні (дык ня выпісаць — аж дзіўна!) І цікавы-ж кожны нумар: — знойдзеш тут сатыру, гумар, вершы, розныя парады... Колькі казак тут і жартаў! Пекная ілюстрацыя—раю падпісацца вам!

IV.

„Ад веку мы спалі",
І зараз мы сьпім.
Піша дзяткор А. Караткевіч
пра атрад пры комбінаце
імя Войкава. (М. Кармы).

Новы факт і зноў-жа — наце: сьпіць атрад пры Комбінаце сном прасмачным. А ячэйка ў вус ня дуе—і атраду не шкадуе. Колісь шмат было работы, а цяпер... няма ахвоты... Вінаваты-ж таму гору іх важаты.

* * *

Ну, пакуль-што годзе. У другі ўжо раз аб сваіх прыгодах напішу для вас. За часопісьсю сачэце і аб працы мне пішэце: аб учынках гэтых „гожых". Ну, пакуль!

**Ваш Шустры Вожык.**

## Актывісты за чыстату.

Мікалай—актывісты ў сваім атрадзе. Ён табе ўсю буржуазею аблае ў сваёй гарачай прамове. Асабліва-ж ён любіць пагаварыць аб чыстаце:

— Чыстата,—залог здароўя—кажа Мікалай. І вось я заходжу аднойчы і бачу, што ён на пыльнай сьцяне штосьці старанна выводзіць каравым пальцам.

Я пытаю:

— Што ты, Мікола, робіш?

А ён адказвае:

— Я пішу: „Чыстата—залог здароўя!" Потым зьнячэўку моцна дыхнуў і ў паветры ўзьняліся хмары едкага пылу, што пакрывае сьцены нямеценай Міколавай хаты.



## Усім дапішчыкам нашай часопісі.

**У гэтым 1928 г. некаторыя дапішчыкі не атрымалі адказы на свае допісы, якія ня былі зьмешчаны ў часопісі. Гэта здарылася таму, што ў часопісі адводзілася вельмі мала месца для адказаў з прычыны абмежаванасьці старонак. У гэтым годзе рэдакцыя ўводзіць наступны эканомны спосаб акуратнага адказваньня. Кожны месяц у цотным нумары часопісі будуць друкавацца прозьвішчы тых, чые матар'ялы ня пойдуць і чые будуць выкарыстаны. Разам з гэтым у часопісі час-ад-часу будуць друкавацца артыкулы аб тым, як напісаць добры допіс і якія недахопы ёсьць у допісах нашых корэспандэнтаў. Гэта вымагаецца тым, што рэдакцыя ня мае ніякай магчымасьці падрабязна адказаць кожнаму пра заганы і дадатныя бакі яго ці то твору, ці то допісу.**

# Падумай

## ЖАРТ.

Доктар. У вас, грамадзянін Пясоцкі, запаленьне лёгкіх. Дзе гэта вы прастудзіліся?

Хворы. Сам ня ведаю дзе, тав. доктар... Ці ня толькі ў Клімавай лядоўні, у якую я ўлез учора.



## ЧАРОЎНЫ ШАР.

Гэты цікавы фокус лёгка можна правесьці дома сярод сваіх таварышоў. Для гэтага трэба ўзяць і распусьціць мыла і пры дапамозе саломінкі надзьмуць мыльную бурбалку. Падносячы потым к вялікай мыльнай бурбалцы нацёртую аб сукно (значыцца наэлектрызаваную) палачку сургуча ці грэбень,—вы прымусіце шар (бурбалку) плаваць у паветры ў розных напрамках, куды вам захочацца. Пры гэтым трэба толькі сачыць за тым, каб бурбалка не дакранулася да палачкі ці грэбеня, бо ў такім разе яна лопне.

## КАЛІ „КАНЕЦ СЬВЕТУ".

У Індыі ёсьць цікавая легенда. У горадзе Бэнарэсе быццам ёсьць цэркаў, у якой індускі бог Брама пры стварэньні сьвету ўстанавіў тры дыямэнтных палачкі і надзеў на адну з іх 64 залатыя абручыкі: самы вялікі ўнізе, а наступны, верхні, трошкі меншы за папярэдні. Жрацы царквы павінны без адпачынку, удзень і ўночы, перакладваць гэтыя абручыкі з аднэй палачкі на другую, карыстаючыся трэцяй, як дапаможнай, і выконваючы правіла: пераносіць зараз толькі адзін абручык і ня класьці большага на меншы.

Легенда кажа, што калі будуць перанесены ўсе 64 абручыкі, тады настане канец сьвету.

Зразумела, калі верыць гэтай легендзе, сьвет даўно ўжо мусіў-бы загінуць. Гэтак кажуць тыя, хто ўяўляе сабе, што для перанясеньня 64 абручыкаў трэба вельмі мала часу. Карацей кажучы, па іх думцы, робячы за кожную сэкунду адзін ход, можна за гадзіну пасьпець зрабіць 3.600 перастановак, а за суткі каля 100 тыс. перастановак. За дзесяць дзён мільён перастановак. За мільён разоў можна, напэўна, перанесьці не 64 абручыкі, а хоць тысячу. Зразумела, яны памыліліся. Каб перанесьці гэтыя 64 абручыкі згодна адзначанаму правілу, трэба зрабіць 18,446,744,073,704,551,616 перастановак.

На гэтыя перастаноўкі патрэбна 500 міліярдаў гадоў.

## ЦУДА.

Пастаўце дзьве табарэткі на адлегласьці аднаго ці паўтары мэтры адна ад другой. На край кожнай табарэткі палажэце алоўкі так, каб канцы іх высоўваліся за край. На гэтыя высунутыя канцы алоўкаў палажэце тонкую лучынку.

Вазьмеце лінейку і борзда моцна ўдарце вузкім канцом яе па сярэдзіне лучыны.



Калі ваш удар будзе даволі спусным, моцным і прарабіце вы яго борзда, дык алоўкі не скрануцца з месца, а лучына пераломіцца. Увесь сакрэт у хуткасьці ўдара, сіле і меткасьці яго (трэба стукнуць лінейкай абавязкова па сярэдзіне лучыны).

## ШТО ЦЯЖЭЙ.

На звычайнай вазе (шалях) ляжаць: на аднэй талерцы камень, які важыць роўна 2 кілёграмы, на другой—жалезная 2-х кілёграмная гіра. Шалі асьцярожна апусьцілі ў ваду. Ці асталіся роўнаважнымі талеркі ў вадзе і якая талерка перацягнула?

Поэта рэволюцыянэр (пра М. Чарота).—Хто васкрос? (пра вялікдзень). Заместа 5 мы павінны вучыцца 8 месяцаў.—Госьці з неба.—Сваімі рукамі (як што можна самому зрабіць).—Гульні (№ 7).

Наша работа летам.—Вы комунізм дабудуеце (Е. Яраслаўскага).—Старонка з мінулага (пра 1-е мая).—Шлях да шчасьця (М. Горкага).—Экскурсія ў Кітай.—Беражэце яго! (да дню лесу).—Сустрэнем лета падрыхтаванымі (№ 8).

Піонэры ў Польшчы.—Ліст англійскіх піонэраў.—Піонэрскі Гамбург.—За культурную моладзь.—З запісак юнатаў.—Як вымераць любую адлегласьць (№ 9).

Ліст з Фінляндыі.—Піонэрскі рух у Швэйцарыі.—Ліст Лючэты.—Вольны час праводзь весела і цікава.—Беражыся ад воспы.—Сярод жывых зьвяроў.—Як зрабіць фото-апарат (№ 10).

Каляндар прыроды (як угадаць пра надвор'е).—Прэч курэньне!—Гульні замежных піонэраў.—Жыцьцё дзяцей за межамі.—Яны яшчэ вернуцца дамоў!—Экскурсія ў музэй.—Павозка без калёс (№ 11).

Карысныя парады.—Гэтых дзён не забыцца (да 11-га ліпеня).—Да дзевятай гадавіны вызваленьня Беларусі (**А. Чарвякова**).—Валейбол.—Наша будаўніцтва.—Організуйце дружыны юных пажарнікаў (№ 12).

Вясёлы вечар у атрадзе.—Госьці з Скандынавіі.—Жыцьцё замежных дзяцей.—Наша праверка—вайсковы паход.—Тыдзень абароны.—Ці ёсьць у вас радыё-прыёмнік? (№ 13—14).

Ці адчуваюць насякомыя боль?—Дваццаць пяць год бальшавізму.—Піонэр сацыяльнае рэволюцыі (пра М. Чарнышэўскага).—На дубе праз парогі (№ 15).

Драма на канцавосьці.—У школе сьляпых (№ 16).

Нашы нагляданьні.—Ісак Ньютон.—Піонэр, вучыся страляць (№ 17).

Як вывучаюць пералёт птушак.—У культурны паход.—Піонэры на сцэне.—Старонка фокусаў (№ 18).

Чытайце кніжкі.—Як вылечыцца ад каросты.—Карысныя парады (№ 19).

Шкоднікі капусты.—Усе на камсамольскі суботнік.—Калмыкі.—Замежныя піонэры аб сваёй працы.—Кветкі патрабуюць увагі.—Што робіць т. Кулік у Сібірскай тайзе (№ 20).

Вялікі паход.—Комсамолія.—Як яны злуюць.—Сенька-бяспрытульнік (№ 21).

Піонэры і школьнікі—на дапамогу „ОЗЕТ'у".—Дзеці вуліцы.—Ці вялікі сусьвет? (№ 22).

Комсамол—на фронт!—Што ім даў комсамол.—Самаеды (№ 23).

**Апрача** пералічаных матар'ялаў, у часопісі з нумару-у-нумар зьмяшчаліся допісы, галаваломкі, у апошніх нумарох друкуецца сатырычны аддзел „Вожык", насьценгазэта чытачоў „Б. П." і інш.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Ул. Макаеўскаму.** Свой верш ты пачынаеш так: „Што за песьні чуюцца у лесе. і каго так песьціць іхні шум дубоў? Няграматна. нядобра. Не разьбярэшся, што і да чаго напісана. Лепш вучыся—гэта карысьней будзе для цябе.

**Ул. Кажамячонку.** Твайму апавяданьню трудна паверыць: яно не пераконвае чытача ў праўдзівасьці таго, аб чым ты пішаш. Падумай сам: захацелася хлопцу наведаць свайго сябра, які жыве недзе далёка. Ён ідзе да яго, ідзе і праз усю дарогу плача нечага. Потым дайшоў і ўзрадаваўся... Што тут цікавага?

**Файтліну.** Для заняткаў дзяткоргуртка скарыстайце кніжку „В поход за знанием"—Выд. „Молодая Гвардия".

Як працаваць дзяткоргуртку ў часопісі „Б.П." друкавалася ў 1927 годзе. Сякія-такія парады і артыкулы будуць друкавацца ў 1929 г.

**Гарадцу.** Адказваем на твае запытаньні. Пішы допісы, невялікія нарысы з жыцьця і работы школы. Лісты можна пасылаць бяз марак.

**Камядовічу.** Аб выпісцы газэт і часопісаў пастаў пытаньне на сходзе піонэрскага атраду. Допіс зьмешчан ня будзе.

**Сябру Савету—Г.** Допіс „Даслужыўся" перададзены ў піонэрскі габінэт, у часопісі друкавацца ня будзе.

**А. Шораху.** Допіс „Малады піонэр" друкавацца ня будзе. Чытач хоча ведаць не агульныя ўражаньні ад вечара, а як вы яго організавалі, чым ён быў цікавым.

**Гершуновіч Ф.** Допіс „Культпаход" ня пойдзе, бо у ім апісваецца толькі дэманстрацыі з прычыны культпаходу. Для часопісі важны толькі конкрэтныя факты: што зроблена самімі піонэрамі ў быту, дома, у школе, у атрадзе.

**Ю. Р.** Твая „Казка" ня пойдзе, бо яна слабая, неапрацаваная.

**Файтліну Ф.** Допіс „Культурны паход і Ляднянскія піонэры" ня пойдзе.

Тое, што ў вас шмат недахопаў у працы, ня вельмі цікавая рэч. Вось задача культурнага паходу і заключаецца ў тым, каб аб'явіць і праводзіць змаганьне з усялякімі недахопамі ў нашым жыцьці.

**Гарбачову.** Апавяданьняў і вершаў табе пісаць ня раім: гэта табе не ўдаецца. Лепш вучыся граматыцы—чытай, пішы пераказы ў школе, працуй над стылем, каб мог граматна выказваць свае думкі. У часопісь пішы допісы.

**Калупіну.** Пераклады з украінскае мовы не падыходзяць.

**М. Быкаўскаму.** Вершы твае ня дрэнныя, але ў іх ёсьць яшчэ шмат заганаў, накшталт: „сэрца так крычыць". Аднак раім пісаць больш.

**Акулічу Я.** Твае нарысы з прыроды і інш. яшчэ слабаватыя і для часопісі не падыходзяць.

**Кавалёву.** Адносна насьценгазэты раім табе паставіць пытаньне на зборы атраду і абмеркаваць яго. Вершы друкаваць ня будзем.

**Аркадзю Ярыне.** Апавяданьне „Неразумныя" вельмі дрэнна напісана. Нікога яно не зацікавіць. Ня варта табе пісаць апавяданьняў.

**М. Вярбовічу.** Твой допіс „Гісторыя Зембінскай піонэрорганізацыі" скарысталі. Пісаць так, як Капейкін, раім табе і ўсім другім дзяткорам, хто хоча і здолее жыва і цікава апісваць пра асобныя факты з жыцьця і працы атрадаў.

**Караткевічу.** Апавяданьне „Ганс-карапуз" зьмяшчаць ня будзем, бо пераклад зроблен дрэнна.

**Захараву.** Вершы твае напісаны дрэнна і друкавацца ня будуць.